*Ідзе падпіска на «Народную Волю» на май–чэрвень 2018 года*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 31 (4283)**

18 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

МІНСК–КІШЫНЁЎ

## Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Малдову

Сёння і заўтра прэзідэнт Беларусі будзе знаходзіцца ў Кішынёве. Ён правядзе перамовы з прэзідэнтам Малдовы **Ігарам Дадонам** і прэм'ер-міністрам **Паўлам Філіпам**, падчас якіх будуць усебакова абмеркаваны розныя аспекты міждзяржаўных адносін.

У гэтыя ж дні ў Кішынёве пройдзе беларуска-малдаўскі форум дзелавога і міжрэгіянальнага супрацоўніцтва.

Варта адзначыць, што ў снежні мінулага года, наведваючы Беларусь, прэм'ер-міністр Малдовы Павел Філіп адзначаў, што Беларусь для Малдовы з'яўляецца адным з важнейшых гандлёва-эканамічных партнёраў. У цяперашні час у Малдове працуе 80 прадпрыемстваў з беларускім капіталам. "*Мы прыкладаем шмат намаганняў, каб беларускія інвестыцыі ішлі ў краіну*", – заяўляў Філіп. Пры гэтым ён адзначаў, што для беларускіх партнёраў выгадна супрацоўніцтва з Малдовай, таму што ў краіны ёсць рэжым свабоднага гандлю з Еўрасаюзам, Турцыяй, краінамі СНД.

Дарэчы, Беларусь і Малдова, паводле слоў намесніка прэм'ер-міністра Беларусі **Міхаіла Русага**, плануюць давесці тавараабарот да 400 мільёнаў долараў. У 2012 годзе краіны ўжо практычна дасягнулі такіх паказчыкаў, але потым здарыўся спад. У 2016 годзе тавараабарот паміж Беларуссю і Малдовай склаў усяго 204,8 мільёна долараў. Прыкладна такія лічбы былі і ў 2017 годзе.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Пахаладае...

Сёння, 18 красавіка, будзе ўсяго плюс 12 градусаў. Але ўжо заўтра, паводле прагнозаў сіноптыкаў, стане крыху цяплей. Надвор'е чакаецца без ападкаў. Тэмпература паветра днём 19 красавіка дасягне плюс 14–16 градусаў, у пятніцу – 14–18.

Дарэчы, на мінулым тыдні быў пабіты тэмпературны рэкорд 57-гадовай даўніны. 15 красавіка ў Мінску паветра прагрэлася да плюс 20,9 градуса. Ранейшы максімум дня быў роўны 19,8 градуса ў 1961 годзе.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Леонид ЗАЯЦ, министр сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь:

## «Никто меня не сломает…»

*Как Беларусь намерена отвечать на многочисленные претензии Россельхознадзора?*

*Об этом и не только – в эксклюзивном интервью «Народной Воле» министра сельского хозяйства и продовольствия.*

**– Леонид Константинович, вначале Россельхознадзор ввел запрет на белорусское молоко, сейчас возникли проблемы с поставками мясной продукции. Расскажите, какова ваша реакция на то, что происходит?**

– Проблема действительно есть. Но на 20 апреля назначена встреча министров сельского хозяйства России и Беларуси. Поговорим о сложившейся ситуации, а также выработаем механизм дальнейших поставок белорусской продукции на российский рынок, а российской – на наш. Обсудим годовой продовольственный баланс…

Существует еще ряд проблем по отдельным белорусским предприятиям, но мы пытаемся их решить и найти понимание с российской стороны. Сейчас идет некое обвинение предприятий Республики Беларусь в том, что в их продукции содержатся элементы, опасные для человека. В наших аккредитованных лабораториях – современное оборудование, на котором работают хорошо подготовленные специалисты. И ничего подобного мы у себя не выявляем!

Замечу, что Беларусь торгует с 80 странами мира. И ни из одной другой страны нет претензий к качеству нашей продукции.

Более того – в сентябре 2015 года мы приняли решение ужесточить параметры качества сырого молока, хотя в той же России они более лояльные. Все это позволяет говорить о том, что наша продукция – качественная.



**– А откуда тогда все эти обвинения? Одно из последних звучит весьма серьезно: если верить россиянам, в белорусском мясе обнаружен генетический материал африканской чумы свиней.**

– Мне ничего не известно о том, что у нас африканская чума. Если бы это на самом деле было так, то мы уже давно предприняли бы соответствующие меры и открыто обо всем рассказали.

**– Леонид Константинович, честно говоря, удивляет и ваша достаточно мягкая, слишком спокойная реакция на происходящее. Хотя заявления Россельхознадзора наносят катастрофический удар по имиджу страны.**

– Мягко или не мягко – это не важно. Я был в командировке и об очередном заявлении Россельхознадзора узнал лишь по прилете. 20 апреля вопрос по мясу также будет вынесен на обсуждение.

**– Сколько белорусских предприятий сегодня находится в российском «черном списке»?**

– Мы эти цифры не озвучиваем. Мне кажется, ни к чему это. Разберемся сами.

**– Россельхознадзор недавно грозил ограничить ввоз картофеля из Беларуси. Якобы потому, что под видом белорусского мы поставляли египетский. Это правда?**

– Мы производим картофель для того, чтобы накормить свою страну и излишки продать за пределы государства. У нас это получается. А почему россияне хотят ограничить ввоз нашего картофеля – мне об этом не известно. На мой взгляд, абсолютно никаких оснований для этого нет.

**– Буквально на днях должна была закончиться проверка десяти белорусских молочных и мясоперерабатывающих предприятий, которую проводил Россельхознадзор. Вы уже знакомы с ее результатами?**

– Пока нет…

**– Леонид Константинович, в вашем голосе звучит то ли большая грусть, то ли усталость от всей этой ситуации…**

– Я хочу, чтобы вы понимали: никто меня не сломает. Ни проверками, ни громкими заявлениями. Я не вчера родился и понимаю, что происходит…

**– Но ведь удар за ударом со стороны Россельхознадзора следует!**

– Еще раз повторю: у нас нет оснований подвергать свою продукцию сомнениям. Она качественная!

**– Ну а если 20 апреля вам не удастся договориться с российским министром, что тогда?**

– Пока нужно дожить до этого времени. Думаю, договоримся…

**Марина КОКТЫШ.**

КУЛУАРЫ

### О чем пойдет разговор?

*Какие вопросы будут обсуждать главы аграрных ведомств России и Беларуси на встрече 20 апреля?*

В российских средствах массовой информации прошла информация о том, что один из главных вопросов – инициатива Министерства сельского хозяйства Российской Федерации поставлять все белорусское сухое молоко через одну компанию, чтобы была возможность отследить выполнение балансов по поставкам животноводческой продукции.

Еще россияне предлагают ввести лимит на поставку белорусской продукции и оговорить объемы поставок на год, сразу согласовав стоимость.

УСМЕШКА МАСТАКА




## Скралі слупы…

98 слупоў скралі невядомыя на 84-м кіламетры аўтадарогі Мінск–Гродна паблізу вёскі Мазурка Валожынскага раёна.

Слупы з металапрофілю – кожны слуп даўжынёй па 2,5 метра – усталёўваліся для мантажу агароджы ўздоўж лесапаласы на гэтым участку трасы. Шкода перавышае 2,7 тыс. рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**



ГУЧНАЯ СПРАВА

## Хутка суд над Мікалаем Неўмяржыцкім

*Справа былога кіраўніка буйной аграпрамысловай гаспадаркі краіны – рэспубліканскага даччынага ўнітарнага прадпрыемства па племяннай справе «ЖодзінаАграПлемЭліта»* ***Мікалая Неўмяржыцкага*** *будзе слухацца ў Жодзінскім гарадскім судзе.*

Ужо год, як Мікалай Неўмяржыцкі знаходзіцца за кратамі. Яго арыштавалі летась, у красавіку. Чыноўніка са стажам (а раней Неўмяржыцкі займаў пасаду старшыні Смалявіцкага райвыканкама) затрымалі прама ў службовай машыне, калі ён прыехаў на працу. Пазней высветлілася, што Неўмяржыцкі праходзіць па так званай справе аграрнікаў, адначасова з ім затрыманы кіраўнікі шэрагу дзяржпрадпрыемстваў. Прэс-служба МУС паведамляла, што раскрыта карупцыйная схема, у якой замешаны затрыманыя кіраўнікі і службовыя асобы найбуйнейшага ў краіне камерцыйнага вытворцы ветэрынарных і кармавых дабавак – холдынга «АФМ». Паводле дадзеных следчых, «АМФ» пастаўляў сваю прадукцыю на дадзеныя прадпрыемствы па завышаных коштах (прычым цэннікі завышалі ў 3–5 разоў), а за тое, што здзелкі заключаліся на такіх умовах, кіраўнікі атрымлівалі грашовыя ўзнагароды. Паводле папярэдняй інфармацыі, сума хабараў магла складаць больш за 1 млн долараў.

І вось следства скончана. У суды перададзены шэсць крымінальных спраў ужо былых кіраўнікоў: намесніка дырэктара УП «Мінская фабрыка агародніны», генеральнага дырэктара ААТ «Слонімскі мясакамбінат», дырэктара УП «ЖодзінаАграПлемЭліта», дырэктара ААТ «Смалявіцкі райаграсэрвіс», дырэктара ААТ «Вілейскі камбікормавы завод», дырэктара УП «Барысаўскі камбінат хлебапрадуктаў».

Справа экс-дырэктара УП «ЖодзінаАграПлемЭліта» будзе слухацца ў Жодзінскім гарадскім судзе, але дата першага пасяджэння пакуль не прызначана. Неўмяржыцкаму прад'яўлена абвінавачанне па чч.1,2 арт.430 (атрыманне хабару) КК Беларусі. Санкцыі, прадугледжаныя гэтым артыкулам, суровыя – пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці, з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Дарэчы, у паведамленні Следчага камітэта аб завяршэнні расследавання шэрагу крымінальных спраў у дачыненні да кіраўнікоў прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу адзначалася, што ўсе гэтыя *«службовыя асобы вызвалены ад займаных пасад»*.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Найлепшы сродак ад перхаці – гільяціна?

Адразу падкрэслю: я супраць заангажаванай хлусні, паклёпаў, фэйкаў, наркаманіі, тэрарызму, разбэшчвання дзяцей – карацей, усіх тых жахаў, якімі страшаць чыноўнікі, апраўдваючы падрыхтаваныя імі жорсткія (асабліва што да інтэрнэту) папраўкі ў закон аб СМІ. Я абедзвюма рукамі за якасную, высокапрафесійную, адказную журналістыку, культуру дыскусіі. Але я таксама і за тое, каб змаганне супраць негатыву ў Сецiве ішло строга ў духу прававой дзяржавы.

Калі болей канкрэтна, то чыноўнік не мусіць падмяняць сабой суд. Ненармальна, калі Міністэрству інфармацыі надаюцца паўнамоцтвы нейкага трыбуналу ў медыйнай галіне. Між тым у нас ужо сёння гэта ведамства можа імгненна прыбіць любы сайт, як муху, – і ні ў які суд не паскардзішся: закон такога механізму не прадугледжвае.

Прычым дзеля матывацыі пакарання ў духу "найлепшы сродак ад перхаці – гільяціна" закон ужо цяпер дае, напрыклад, такую гумовую фармулёўку, як інфармацыя, "*распаўсюджванне якой здольна нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь*". Чыноўніцкая ж брацiя акурат і любіць атаясамліваць свае карпаратыўныя інтарэсы з дзяржаўнымі, нацыянальнымі.

А новы законапраект, калі ён будзе прыняты, дасць Мінінфарму дадатковыя нагоды заблакіраваць неўпадабаны рэсурс, прычым незалежна ад таго, ці зарэгістраваны ён як СМІ. Прамоўтары навацый кажуць, дарэчы, што рэгістрацыяй сеціўных выданняў хочуць паставіць усіх на адну роўніцу. Але чаму б не пайсці ў іншы бок, скасаваўшы і рэгістрацыю друкаваных СМІ, якая ў такім выглядзе супярэчыць дэмакратычным нормам і не практыкуецца ў свабодных краінах? І наогул, ці не пара правесці раздзяржаўленне сродкаў масавай інфармацыі?

У нас жа, бачыце, закон хочуць дапоўніць, у прыватнасці, артыкулам 30-1 пра абавязкі і правы ўладальніка інтэрнэт-рэсурсу (прычым пералік абавязкаў нашмат даўжэйшы). Па-першае, такім уладальнікам могуць абвясціць любога блогера. Па-другое, самі патрабаванні размытыя – кшталту "*не дапускаць размяшчэнне інфармацыі, распаўсюджванне якой забаронена ці абмежавана заканадаўчымі актамі*" (якімі – гадайце на кафейнай гушчы). Іншыя патрабаванні фактычна змушаюць уладальніка сайта ўводзіць прэмадэрацыю карыстальніцкага кантэнту ці ўвогуле адмаўляцца ад форумаў, каб не сядзець на парахавой бочцы.

Супраць друкаваных СМІ ў Мінінфарма таксама маецца моцны арсенал, але ўсё ж закрыць газету можна толькі праз суд. А вось інтэрнэт-рэсурс элементарна знішчаецца адным росчыркам пяра. Прычым, паводле законапраекта, следам за блакіраваннем у сеціўнага выдання могуць яшчэ і адабраць рэгістрацыю – таксама без аніякага суда.

Чыноўнікі палохаюць, што сайты могуць рэкламаваць наркотыкі, даваць рэцэпты выбухоўкі, правакаваць дзіцячыя суіцыды і г.д. Маўляў, у такіх выпадках трэба рэагаваць імгненна, няма калі разводзіць антымоніі. Але ж мы бачым, што без папярэджання ды выразнага тлумачэння блакіруюць і вострапалітычныя рэсурсы – "Белорусский партизан", "Хартыю'97".

Дзе гарантыя, што заўтра, пасля прыняцця новай рэдакцыі закона аб СМІ, функцыянеры не пачнуць злоўжываць узмоцненым карным інструментарыем менавіта ў палітычных мэтах? Ці не рыхтуецца гэты інструментарый на выпадак абвастрэння ўнутранай сітуацыі, масавых пратэстаў? А мо рэферэндуму, пра які паўзе шмат чутак?

Згадваецца, як папулярныя грамадска-палітычныя сайты актыўна "глушыліся" ў снежні 2014 года, калі чарговы раз ляснуўся беларускі рубель і ўладам, што спрабавалі замаскіраваць сваё фіяска ўвядзеннем збору на куплю валюты, надта ж не падабаліся вострыя каментарыі інтэрнэт-рэсурсаў на гэту тэму. Ведаю, што на адмысловай нарадзе ў адным важным кабінеце з абурэннем як прыклад дэструктыўнага матэрыялу дэманстравалі раздрукоўку майго артыкула з Сецiва. Хоць там была чыстая праўда, што потым і пацвердзіла афіцыйная дэвальвацыя.

Тады блакіраванне рабілася нібыта нейкімі ананімнымі сіламі, хоць вушы і тырчэлі. Зараз ужо хавацца няма патрэбы: усё прапісана ў законе. І яго хочуць зрабіць яшчэ болей бязлітасным. Як бы ні прыкрываліся дзяржаўныя функцыянеры інтарэсамі дзяцей (ну не раўнуючы бы той герой Ільфа і Пятрова), ураджанне такое, што метадычна ўзмацняецца менавіта інструментарый супраць палітычных апанентаў.

А хіба нармальна, што ў нас пратаколы за парушэнне медыйнага заканадаўства можа складаць любы міліцыянт, які ў галіне СМІ, мякка кажучы, не вялікі знаўца?

Такіх рытарычных пытанняў можна накідаць яшчэ багата. Таму найлепей было б зараз не пароць гарачку з разглядам паправак у закон аб СМІ на веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў. Так, адрозна ад 2014 года, калі закон падкарэкціравалі цішком, цяпер з праектам азнаёмілі Беларускую асацыяцыю журналістаў. Але ці не дзеля блізіру гэты жэст? Дакумент могуць літаральна днямі вынесці на сесію, а пасля першага чытання ўнесці нейкія істотныя карэктывы стане практычна немагчыма.

Хто вас, панове, у шыю гоніць? Што, у нас надзвычайная сітуацыя? Ці ў Мінінфарма сёння замала паўнамоцтваў? Ды іх і так два вазы і цэбар. Прычым караць неўпадабаныя медыі чыноўнікі могуць, яшчэ раз падкрэслю, у спрошчаным пазасудовым парадку – не раўнуючы як некалі дзейнічалі сумнавядомыя "тройкі" НКВД. Гэта так мы будуем прававую дзяржаву?

Карацей, варта вярнуць праект на дапрацоўку, прыслухацца да заўваг БАЖ, іншых незалежных экспертных ацэнак, разгарнуць сапраўды шырокую дыскусію. Гэта стала б канкрэтным прыкладам дыялогу ўлады з грамадзянскай супольнасцю, які так рэкламуе апошнім часам Еўропе міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

ТРЫВОЖНЫЯ ЛІЧБЫ

# 2018: інфляцыя набірае разгон?

Студзень .... 4,5%.

Люты .........4,9%.

Сакавік.........5,4%.

Красавік....... ?

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# «Здравы будьте, бояре!»

Российский парламент среди прочих санкций, которые он намерен ввести в ответ на обиду, нанесенную российским олигархам, рекомендовал не импортировать лекарства из государств, причастных к этим обидам. Ни много ни мало – из США, Германии, Франции, Польши, Украины и т.д. Я не писал бы об этом, будь я человеком со здоровьем председателя федерации хоккея Беларуси Семена Шапиро: того если что и заботит сегодня прежде всего, то, похоже, недостаточно высокая заработная плата хоккеистов. А меня (такой уж я несознательный человек) заботит преимущественно самочувствие – свое и моих близких.

У нас ведь уже давно действует программа импортозамещения в сфере фармацевтики. Президент поручил когда-то поднять уровень национальной продукции в фармации до 70%. Я его понимаю: он отвечает за экономику. Но когда я прихожу в аптеку, провизор спрашивает:

– Вам лекарство наше или импортное?

Ответ у меня готов:

– Меня интересует конечный результат.

Провизор заговорщицки усмехается и продает мне лекарство, произведенное то ли в Словении, то ли в Индии, то ли в Нидерландах. Здесь принцип «Купляйце беларускае!» не работает даже у самых горячих патриотов. Ну, конечно, если лечиться салом, как президент Национального олимпийского комитета, то это универсальное средство – вне конкуренции.

Проблема в том, что некоторые лекарства у нас не продаются. Мне – и, как я понимаю, многим из моих уважаемых читателей – привозили их из России. Что будет сейчас? Вице-спикер Государственной Думы Петр Толстой просто пожелал, чтобы его соотечественники заваривали от хвори кору дуба или пили пресловутый «Боярышник». Понятно: одуревшая от кажущейся безнаказанности королева Мария-Антуанетта тоже некогда рекомендовала французам в случае нехватки хлеба питаться пирожными, но кора дуба – это даже не пирожные. Так что если санкции против, скажем, немецких или американских препаратов введет Россия, меня как потребителя фармацевтической продукции этих стран они точно затронут. Как и фармацевтические санкции против Украины.

В случае с Украиной радует то, что мы до конца с ней до сих пор не расплевались. А потому лазейка для больных, которым, скажем, нужны импортные средства от сахарного диабета, остается: можно свободно возить из Киева. Но вот Порошенко предложил своему правительству рассмотреть возможность полного разрыва Украины с Содружеством Независимых Государств. И что будет тогда? Постепенное закрытие границы и очереди за визами в украинское посольство? И как оно тогда с моими лекарствами будет?

Есть слабая надежда, впрочем, на то, что белорусское государство вдруг решит подзаработать на расфасовке фармацевтической «санкционки» и начнет ее расфасовывать столь же яростно, как выращивает молдавские помидоры, польские яблоки и даже невесть откуда заплывших к нам креветок и лобстеров. Тогда, возможно, у нас и ассортимент медикаментов увеличится, и их качество повысится, и врачи будут выписывать рецепты не на то, что есть в аптеках, а на то, что реально помогает избавиться от хвори. Но для этого тоже нужна, во-первых, политическая воля белорусского руководства, а во-вторых, дыра в ограждении нашего таможенного пространства, чтобы никакой Роскомнадзор не помешал нам туда с лекарствами проникать.

И, конечно, нужно соответствующее указание таможенному ведомству. Просто когда меня в аэропорту таможенник останавливает, я ему в лоб говорю:

– Да, я везу лекарства. Нет, не на продажу, а для личного пользования. У меня в семье два диабетика – вы нам помирать прикажете, если этих лекарств у нас нет или они дороже?

И пусть он попробует мне ответить:

– Да, помирайте.

Диктофоны в телефонах работают. Пусть он мне это под диктофон ответит – я на него потом посмотрю так же внимательно, как он на меня во время досмотра.

И формулировку эту я не изменю. Потому что если вдруг отвечу ему вопросом: «Мне что прикажете – кору дуба заваривать или «Боярышник» пить?» – то он просто усмехнется.

Как усмехнется любой чиновник из правительства или Администрации президента. Мол, хотите пить «Боярышник» – пейте, хотите вместо хлеба пирожные употреблять – употребляйте. Кто вас, простой народ, разберет – с вашими потребительскими причудами? А мы – государевы люди, у нас и поликлиники ведомственные, и возможности более широкие. Каждому, как говорится, свое…

В том числе и в той части, которая касается здоровья. У них – свое, у нас – свое. Как там в исторических романах писалось:–«Здрав будь, боярин!». Вот, будьте здоровы, бояре, – только бы нам не чихалось!

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ




# В «Великом Камне» есть работа

*Двести вакансий представил Китайско-Белорусский индустриальный парк «Великий Камень» на ярмарке вакансий. Основное требование для соискателей – знание китайского языка.*

В зале Лицея БГУ, где открывалась ярмарка, собрались в основном китайские студенты. Заместитель директора по экономике «Великого камня» **Сюй Баоминь** рассказал, что 20 нанимателей ищут 200 работников, в основном высококвалифицированных.

*«Парк растет, развивается, там кипит работа. Год назад и теперь – это два разных парка. Там достаточно земли, мы приглашаем молодые таланты создавать там предприятия»,* – сказал Сюй Баоминь.

На размещенных компаниями стендах утверждалось, что резиденты индустриального парка ищут специалистов-белорусов со знанием китайского языка или хотя бы английского. Но большинство из пришедших на ярмарку составили обучающиеся у нас китайские студенты, некоторые из них не прочь остаться после университета в Беларуси.

Сотрудник отдела кадров одной из компаний «Великого Камня» Ирина пояснила, что китайские менеджеры высшего звена, которые, по сути, парком управляют, исходят из того, что кого надо они привезут из Китая. А вот на определенных позициях должны быть именно белорусы, которые знают нюансы законов, культурную среду страны. То есть если принято решение, что офис-менеджером будет белоруска, ее будут искать среди наших граждан.

Магистрант Лингвистического университета **Цао Цзо** рассказал *Naviny.by*, что окончил факультет международных отношений БГУ, теперь обучается коммуникативному менеджменту и хотел бы работать в Беларуси, но *«нам говорят, что сначала надо обязательно вернуться в Китай, а потом уже искать работу в Минске».*

*«Я хотел бы здесь жить. Мне кажется нормальной зарплатой в Минске тысяча долларов. На ярмарке вакансий столько я не нашел ни у одного работодателя»*, – сказал Цао Цзо.

Зарплаты в «Великом Камне» предлагают очень средние. Заместитель директора ООО «Цифроград Цзяньи» **Цуй Бо** пришел на ярмарку в надежде найти инженера по теплоснабжению и вентиляции: *«Мы ищем специалиста с опытом работы не менее двух лет со знанием китайского и английского языков».*




А к его стенду все подходили студенты, которые искали распределение в этом году. Таких работников, конечно, рассматривают, но ищут все же других.

Зарплата, говорит Цуй Бо, будет зависеть от квалификации и результатов работы, но превышать среднюю по Беларуси намного не будет: *«Ориентировочно можно рассчитывать на тысячу рублей».*

На вопрос, сколько зарабатывает успешный инженер с подобной квалификацией в Китае, собеседник *Naviny.by* сказал, что около полутора тысяч долларов.

Такие зарплаты на ярмарке не предлагали. Административный персонал – офис-менеджеры, администраторы – могут найти работу с зарплатой в 700 рублей, рассказал руководитель отдела персонала «Чайна Мерчантс Групп» **Александр Драгун**.

Компания набирает не только административный персонал, но и технический, например, нужны электрики, сантехники. Если для последних знание китайского языка необязательно, то для административного – желательно, а без английского вообще делать на такой работе нечего.

В компании в Беларуси теперь работает 75 человек, а в Китае – 120 тысяч. Ожидается, что численность персонала в компании будет расти. Уже работает гостиница, бизнес-центр, три логистических склада. К слову, сотрудников в «Великий Камень» возят из Минска бесплатно из нескольких точек.

Насколько принципиально требование знать китайский язык? Александр Драгун говорит, что это очень желательно. Однако все понимают, что в Беларуси только два университета – Лингвистический и Белорусский государственный – выпускают специалистов со знанием китайского. Поэтому кандидаты рассматриваются и со знанием английского языка при готовности учить китайский.

**Елена СПАСЮК.**

ДАРЭЧЫ

## Нямецкая кампанія можа стаць акцыянерам індустрыяльнага парка

Гэта найбуйнейшая лагістычная кампанія Duisburger Hafen AG. Паводле слоў намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Мікалая Снапкова**, падпісанне дакументаў і правядзенне транзакцыі па куплі акцый чакаецца ў сярэдзіне мая. «Пасяджэнне Рады акцыянераў адбылося. Гэтая здзелка была ўхвалена яшчэ раз. Лічу, што для парку яна з'яўляецца эпахальнай», – заявіў Мікалай Снапкоў.

Пакуль што акцыянерамі СЗАТ «Кампанія па развіцці індустрыяльнага парку» з'яўляюцца беларускія (32%) і кітайскія структуры. Што тычыцца Duisburger Hafen AG, то яна з'яўляецца ўладальнікам і аператарам размешчанага на Рэйне порта Дуйсбург. Duisburger Hafen аб'ядноўвае каля 300 кампаній, ва ўласнасці якіх знаходзіцца больш за 20 тысяч суднаў і 25 тысяч цягнікоў. Duisburger Hafen займае адно з вядучых месцаў па перавалцы грузавых кантэйнераў.

ЧУЛІ?

## У новабудоўлях Мінска квадратны метр – 1274 долары, у Кіеве – 872

*Амаль па такіх жа цэнах прадаюцца кватэры ў абласных цэнтрах Беларусі*

Інфармацыйна-аналітычны цэнтр Realt.by прааналізаваў цэны на нерухомасць у Мінску за апошні тыдзень – з 9 па 16 красавіка – і канстатаваў: рост цэн на сталічную нерухомасць працягваецца. Кватэры ў Мінску падаражэлі на 0,5% і склалі 1298 долараў за квадратны метр. Сярэдняя цана ў новабудоўлях сталіцы вырасла за тыдзень на 0,6% і дасягнула 1274 долары за квадратны метр.

Дарэчы, кватэры ў сталічных новабудоўлях з пачатку года падаражэлі на 4,9%, на другасным рынку кошты выраслі яшчэ больш – на 6,4%.

Што тычыцца абласных цэнтраў, то на мінулым тыдні там склалася наступная коштавая сітуацыя на рынку нерухомасці:

Брэст – 745 долараў за квадратны метр (-0,2%),
Віцебск – 608 (+ 1,1%),
Гомель – 617 (+ 0,1%),
Гродна – 705 (+ 0,5%),
Магілёў – 628 (-0,3%).

Для параўнання: у Маскве сярэдняя цана на другасным рынку нерухомасці за мінулы тыдзень знізілася на 5,2% і зараз складае 2725 долараў за квадратны метр. У Кіеве таксама адзначаўся спад коштаў на нерухомасць, праўда, нязначны і толькі на другасным рынку: за тыдзень кошты на кватэры ва ўкраінскай сталіцы знізіліся на 0,5% і складаюць цяпер 1507 долараў за квадратны метр. А вось кошт кватэр у новабудоўлях Кіева ў доларавым эквіваленце павысіўся на 1,2% і склаў 872 долары за квадратны метр. Але ўсё роўна гэта значна танней, чым у беларускай сталіцы.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

РЕЙТИНГ

## Беларусь третья по росту потребительских цен

Анализ цен на территории бывшего СССР составил БелаПАН, используя данные **национальных органов статистики.**

**В первом квартале 2018 года наибольший рост потребительских цен наблюдался в Украине и Узбекистане. Беларусь разделила третье место с Арменией.**

**Рост потребительских цен (март 2018 года к декабрю 2017-го):**

Узбекистан – 4,9%,
Украина – 3,5%,
Беларусь – 2,5%,
Армения – 2,5%,
Казахстан – 1,8%,
Латвия – 1,5%,
Эстония – 1,3%,
Кыргызстан – 1,1%,
Россия – 0,8%,
Литва – 0,5%,
Азербайджан – 0,4%,
Грузия – 0,4%,
Молдова – 0,3%.

В Таджикистане отмечена дефляция (0,8%). Из Туркменистана нет данныхкак за месяц, так и за квартал.

АКЦЫЯ

## Арганізатары «Чарнобыльскага Шляху» шукаюць грошы

*Іх заяўка на правядзенне 26 красавіка мітынгу і шэсця ў Мінгарвыканкаме пакуль не разгледжана.*

Паводле слоў старшыні руху "За Свабоду" **Юрася Губарэвіча**, зараз ідзе пошук сродкаў на пакрыццё выдаткаў, якія звязаны з правядзеннем рэкламнай кампаніі і візуалізацыяй мерапрыемства.

*"Калі гарадскія ўлады выставяць рахункі за паслугі, скажам, медыкаў альбо на прыборку тэрыторыі, то на гэта таксама спатрэбяцца фінансы*, – дадае ён. – *Агулам нам неабходна сабраць некалькі тысяч рублёў".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МУДРЫЯ СЛОВЫ



*– Той, хто хоча разбагацець на працягу аднаго дня, будзе на шыбеніцы на працягу года.*

**Леанарда да Вінчы.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белорусский Свободный театр удостоен приза Вацлава Гавела

*Церемония вручения состоится 30 мая в столице Норвегии Осло – в зале Oslo Freedom Forum, где вручается Нобелевская премия мира.*

Этой хорошей новостью поделился один из создателей Свободного театра драматург **Николай Халезин**.

Вторым лауреатом престижного приза в этом году стал хип-хоп-исполнитель из Южного Судана **Эммануэль Джал**, который борется за права молодых людей в зоне военного конфликта, длящегося более 20 лет.

Учредителем приза Вацлава Гавела является международная организация Human Rights Foundation, одним из учредителей которой стала вдова первого президента Чешской Республики.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

*Говорят, уже в этом году государство готово продать несколько десятков предприятий. Интересно, каких?*

**Николай ФОМЧЕНКО.**

# Хотите приватизировать завод? Пожалуйста!

*Перечень открытых акционерных обществ для проведения в 2018 году работ по приватизации*

| № п/п | Республиканский орган государственного управления, иная государственная организация, подчиненная правительству Республики Беларусь, наименование и место нахождения общества, вид деятельности | Доля Республики Беларусь, в % к уставному фонду | Доля для продажи, % | Способ продажи |
|---|---|---|---|---|
| | **Министерство промышленности** | | | |
| 1 | **ОАО "Барановичский завод станкопринадлежностей"** Разработка, производство и реализация станочной оснастки и товаров народного потребления | 76,6 | 76,6 | конкурс |
| 2 | **ОАО "Завод приборов автоматического контроля"** (Орша) Производство механизмов для дорожно-строительных и землеройных машин, измерительной электронной техники, металлорежущих и деревообрабатывающих станков, комплектующих для автотракторной техники | 92,85 | 92,85 | конкурс |
| 3 | **ОАО "Минский завод отопительного оборудования"** Производство радиаторов и котлов центрального отопления. Пуско-наладочные работы, ремонт и техническое обслуживание котлов. Производство отливок из серого и ковкого чугуна | 43,48 | 43,48 | конкурс |
| 4 | **ОАО "ВИЗАС" завод"** (Витебск) Производство металлорежущих станков, деревообрабатывающего оборудования, станков для обработки других металлов | 98,69 | 98,69 | конкурс |
| 5 | **ОАО "Промлинкс"** (Гомель) Производство узлов и деталей для аппаратов водонагревательных газовых, осветительного оборудования, прочих металлических изделий, музыкальных инструментов | 97,2 | 97,2 | конкурс |
| 6 | **ОАО "Брестский электромеханический завод"** Производство сельскохозяйственных машин, приборов коммерческого учета электроэнергии и газа, медицинской техники, товаров народного потребления | 97,7 | 97,7 | конкурс |
| 7 | **ОАО "Коралл"** (Гомель) Изготовление цветных кинескопов и кварцевого стекла | 100 | 100 | конкурс |
| 8 | **ОАО "БАТЭ" – управляющая компания холдинга "Автокомпоненты"** Производство автотракторного электрооборудования | 98,9 | 48,9 (с сохранением в собственности Республики Беларусь пакета акций в размере 50% + 1 акция) | конкурс |
| 9 | **ОАО "Управляющая компания холдинга "ГОРИЗОНТ"** (Минск) Производство аппаратуры для приема, записи и воспроизведения звука и изображения | 99,9 | 99,9 | конкурс |
| 10 | **ОАО "Гомсельмаш"** Производство сельскохозяйственных машин | 100 | 49,9 (с сохранением в собственности Республики Беларусь пакета акций в размере 50% + 1 акция) | конкурс |
| | **Министерство транспорта и коммуникаций** | | | |
| 11 | **ОАО "ЦАУК"** (Минск) Подготовка водительских кадров | 8,12 | 8,12 | аукцион |
| 12 | **ОАО "Гродно АТЭП"** Организация и осуществление перевозок грузов в международном сообщении для предприятий, организаций, населения | 26,58 | 26,58 | аукцион |
| 13 | **ОАО "Пинский ордена Знак Почета судостроительный судоремонтный завод"** Строительство, техобслуживание, ремонт и переоборудование судов | 99,05 | 99,05 | конкурс |
| | **Министерство энергетики** | | | |
| 14 | **ОАО "Туршовка"** (Крупский район, д.Ухвала) Добыча торфа и производство торфяных брикетов | 100 | 100 | конкурс |
| 15 | **ОАО "Зеленоборское"** (Смолевичский район, пос.Зеленый Бор) Добыча торфа и производство торфяных брикетов | 100 | 100 | конкурс |
| 16 | **ОАО "СМТ "Белтопливострой"** Минский р-н, п.Колодищи Промышленное строительство | 86,16 | 33,16 (с сохранением в собственности Республики Беларусь пакета акций в размере 50% + 1 акция) | конкурс |
| 17 | **ОАО "Белэнергосвязь"** (Минск) Строительство, электросвязь | 86,14 | 86,14 | конкурс |
| 18 | **ОАО "Белэнергоавтоматика"** (Минск) Монтаж, наладка, ремонт и техобслуживание электродвигателей, генераторов и трансформаторов, электрораспределительной аппаратуры | 95,42 | 95,42 | конкурс |
| 19 | **ОАО "Могилевгазстрой"** (Могилев) Строительно-монтажные работы, проектирование, строительство, капитальный ремонт объектов газоснабжения и других инженерных сетей и сооружений, изоляции труб, емкостей | 25,65 | 25,65 | аукцион |
| 20 | **ОАО "СПМК-4"** (Гродно) Работы в грунтах, строительство гражданских инженерных сооружений, общая механическая инженерия | 43,54 | 43,54 | конкурс |
| 21 | **ОАО "Бобруйскэнергомонтаж"** Строительство и монтаж энергетических объектов | 89,8 | 89,8 | конкурс |
| 22 | **ОАО "Белоозерский энергомеханический завод"** Производственная деятельность | 64,47 | 64,47 | конкурс |
| | **Министерство сельского хозяйства и продовольствия** | | | |
| 23 | **ОАО "МинскСортСемОвощ"** Деятельность в области оптовой и розничной торговли семенами трав, овощных, цветочных культур и др. | 5,2 | 5,2 | аукцион |
| 24 | **ОАО "Хлебсервис"** (Минск) Деятельность в области сдачи имущества в аренду | 91,5 | 91,5 | аукцион |
| 25 | **ОАО "Завод Промбурвод"** (Минск) Изготовление и капитальный ремонт насосов | 15 | 15 | аукцион |
| | **Белорусский государственный концерн по производству и реализации товаров легкой промышленности** | | | |
| 26 | **ОАО "Минский экспериментальный фурнитурный завод"** Производство металлической фурнитуры и застежки-молнии. | 49,98 | 49,98 | конкурс |
| 27 | **ОАО "Купалинка"** (Солигорск) Производство бельевого и верхнего трикотажа для взрослых и детей, осуществляет оказание услуг по вязанию, раскрою, пошиву трикотажных изделий | 84,5 | 84,5 | конкурс |
| 28 | **ОАО "Бобруйская обувная фабрика"** Производственная деятельность приостановлена. На данный момент оказание услуг по сдаче в аренду помещений, реализация недвижимости и реализация остатков обуви, имеющейся на складе | 24,8 | 24,8 | аукцион |
| 29 | **ОАО "Смиловичская валяльно-войлочная фабрика"** Производство валяльно-войлочных изделий | 80,81 | 80,81 | конкурс |
| 30 | **ОАО "Пинский завод искусственных кож"** Производство продукции производственно-технического назначения и товаров народного потребления | 76,08 | 76,08 | конкурс |
| | **Белорусский государственный концерн пищевой промышленности** | | | |
| 31 | **ОАО "Столичный проспект"** (г.Жабинка) Оптовая и розничная торговля | 25,31 | 25,31 | аукцион |
| | **Белорусский производственно-торговый концерн лесной, деревообрабатывающей и целлюлозно-бумажной промышленности** | | | |
| 32 | **ОАО "Минскпроектмебель"** Производство мебели, научно-техническая, маркетинговая, торгово-закупочная, внешнеэкономическая деятельность | 99,46 | 99,46 | конкурс |
| 33 | **ОАО "КОПиТ "Борисовлес"** Торговля и общественное питание | 85,14 | 85,14 | аукцион |

ЧУЛІ?

# Анатоль Лябедзька зарэгістраваў новую арганізацыю

*Але кіравацьь ёй будзе не сам старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, а рада, у склад якой увойдуць вядомыя беларускія асобы.*

*"Народная Воля" пацікавілася, чым будзе займацца Цэнтр сацыяльна-эканамічных, гістарычных, культурных даследаванняў і прагнозаў развіцця "Еўрапейскі дыялог".*

**– Анатоль Уладзіміравіч, пытанне ў лоб: рыхтуеце для сябе новае месца працы? Вы ж заявілі, што маеце намер пакінуць пасаду старшыні партыі…**

– Ідэя стварэння такога цэнтра не новая, мы абмяркоўвалі яе яшчэ ў мінулым годзе. Цэнтр сацыяльна-эканамічных, гістарычных, культурных даследаванняў і прагнозаў развіцця "Еўрапейскі дыялог" – гэта ў першую чаргу дыскусійная пляцоўка, на якой з удзелам вельмі кампетэнтных спікераў можна было б без усялякай цэнзуры абмяркоўваць актуальны для Беларусі парадак дня. Так, у мінулым годзе мы правялі некалькі мерапрыемстваў з удзелам дэпутатаў Літвы, Украіны, Бельгіі, Швецыі. Гэта адзін з накірункаў дзейнасці, які мы абмяркоўвалі ў партыі. Таму шукаць нейкія падводныя камяні тут не варта.

**– Калі я правільна зразумела, цэнтр атрымаў афіцыйную рэгістрацыю?**

– Так, мы маем афіцыйны статус. Назва цэнтра крыху нязграбная, але рэгістрацыя – даволі складаны працэс, не з першай спробы давялося яе атрымаць.

**– Кіравацьь цэнтрам "Еўрапейскі дыялог" будзеце вы альбо нехта іншы?**

– Спадзяюся, што створым раду, у складзе якой будуць вядомыя і ўплывовыя асобы з розных сфер дзейнасці.

**– Можа, за гэтыя дні з'явіліся новыя асобы, якія прэтэндуюць на пасаду старшыні АГП? Ці заявіў нехта, акрамя Ганны Канапацкай і вашага намесніка Васіля Палякова, пра свае амбіцыі?**

– Пакуль не, але я ўпэўнены, што тры-чатыры прэтэндэнты дакладна будуць. Проста яшчэ не агучылі пра свой намер публічна.

**– А самі вы ўжо ні пры якіх раскладах не будзеце балатавацца?**

– Калі раптам паўстануць нейкія непрадбачаныя абставіны, то ўсё магчыма. Я гатовы да любых сцэнарыяў. Але без пасады старшыні партыі дакладна сумаваць не буду. Заняткаў можна знайсці шмат.

**Марына КОКТЫШ.**

СІТУАЦЫЯ

# З калоніі – у бальніцу

*Маладзёжнага актывіста Зміцера Паліенку, які адбывае пакаранне ў Бабруйскай калоніі, перавялі ў лякарню ў Жодзіна.*




Нагадаем, што ўжо з 15 гадоў **Зміцер Паліенка** ўдзельнічаў у розных акцыях. *Спачатку хлопец далучыўся да нацболаў, яго неаднаразова затрымлівалі і штрафавалі, накіроўвалі на "суткі". Потым ён стаў займацца самастойнай сацыяльнай дзейнасцю і не прыпісваў сябе ні да якіх арганізацый, але вельмі паслядоўна рабіў шмат якія карысныя справы. Напрыклад, збіраў паштоўкі для палітвязняў альбо звяртаў увагу на нейкія сацыяльныя праблемы.*

Пазней Зміцер далучыўся да анархістаў і працягваў займацца актыўнай дзейнасцю. У сталіцы праходзілі рэгулярныя акцыі раварыстаў, якія называліся "Крытычная маса". *Перыядычна ўдзельнікаў міліцыя старалася разагнаць. 29 красавіка 2016 года быў даволі жорсткі разгон, тады затрымалі 6 чалавек. Чатырох з іх абвінавацілі ў парушэнні правілаў дарожнага руху, а таксама непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі.*

*Пазней супраць двух затрыманых была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 364 КК РБ – «Гвалт ці пагроза гвалту супраць супрацоўнікаў міліцыі»: нібыта аднаму з даішнікаў Зміцер Паліенка парваў куртку. Аднаго падазронага –* **Стаса Канавалава** *– выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе, пазней яго справу закрылі.*

Зміцер Паліенка 12 кастрычніка 2016 года судом Цэнтральнага раёна г.Мінска прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 364 Крымінальнага кодэкса (гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў) і часткай 2 артыкула 343 КК (выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару). Паводле прысуду, З.Паліенка быў прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

А 7 красавіка 2017 года судом Заводскага раёна г.Мінска разгледжана прадстаўленне органа, які ажыццяўляе кантроль за паводзінамі асуджанага (хутчэй за ўсё, УУС Заводскага раёна), і адменена адтэрміноўка выканання пакарання. У сувязі з гэтым без права на абскарджванне Зміцера Паліенку накіравалі ў папраўчую калонію тэрмінам на 1,5 года.

*"Не так даўно сына перавялі ў Жодзіна, – распавёў* **Аляксандр Паліенка** *– бацька зняволенага. – У яго рана на назе, яна не зажывала доўгі час. У Бабруйскай калоніі ўрачы не ведалі, што з гэтым далей рабіць, каля сямі месяцаў не маглі паставіць дыягназ".*

*"У лякарні, натуральна, умовы лепшыя, чым у калоніі, але ж тут выбіраць не даводзіцца, – дадае* **Марына Насенка***, сяброўка актывіста. – Зміцер з нецярпеннем чакае заканчэння тэрміну адбыцця пакарання, які павінен скончыцца 24 кастрычніка гэтага года, але хацелася б, каб грамадская салідарнасць дапамагла вызваліць яго раней".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

СЛУЧАЙ

# Итальянцы усыновили 32-летнего белоруса

*Недавно суд итальянского города Тренто рассмотрел необычное дело об усыновлении: семья из автономной области Трентино-Альто-Адидже оформила родство с 32-летним белорусом.*

Об этом случае, не раскрывая имен и фамилий участников истории, рассказали местные СМИ.

Наш соотечественник впервые попал в итальянскую семью, проживающую в долине Кьезе, когда ему было всего 11 лет, по программе оздоровления детей из районов, пострадавших от аварии на ЧАЭС.

Год за годом ребенок посещал одну и ту же семью, у которой нет собственных детей. В результате между ними установилась неразрывная эмоциональная связь. Но только сейчас итальянская пара решила усыновить белоруса. И это не противоречит итальянским законам, которые предусматривают случаи, когда взрослый человек также может быть усыновлен. При этом он получает те же права, что и родной ребенок, то есть становится наследником.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# І адзін у полі воін

У цесны пакойчык выдавецтва "Беларускі кнігазбор" зайшоў дзіўны аўтар – у шортах і шлёпанцах, але з масіўным залатым ланцугом на шыі. Ён прынёс цэлы абярэмак пульхных тэчак і з відавочнай палёгкай згрувасціў іх на стале перада мною: "З гэтым трэба нешта рабіць". Тыя тэчкі павінны былі ператварыцца ў кнігу пра вядомага ў 1920-я гады паэта Валерыя Маракова. Чалавек у шлёпанцах назваўся яго пляменнікам **Леанідам Маракавым**.

На маё законнае пярэчанне, што кніга пра дзядзьку – гэта пахвальна, але змесціва тэчак перад здачай у выдавецтва не шкодзіла б, прынамсі, пасартаваць, Леанід кінуў ужо з парога: "Ты рэдактар, ты і сартуй". І дадаў, што ў яго праз некалькі гадзін авіярэйс на Дубай.

Калі кніга "Валеры Маракоў: лёс, хроніка, кантэкст" праз год усё ж выйшла, я зразумеў, што гэта толькі пачатак. Леанід проста фантаніраваў нечаканымі ідэямі, агаломшваў архіўнымі знаходкамі, пошукавая праца зацягвала яго, як галавакружны вір. Ён усё радзей лётаў па справах у Дубай і ўсё часцей наведваўся ў архівы і бібліятэкі. Дзесьці на мяжы стагоддзяў прадпрымальнік у ім дарэшты сканаў, а нарадзіўся апантаны даследчык.

Леаніда цікавіла ўсё, звязанае з рэпрэсіямі і тэрорам. Колькі выслана, колькі і дзе расстраляна, хто ў якой турме сядзеў, хто каго дапытваў, хто пісаў даносы… Пры сустрэчы ён сыпаў прозвішчамі і лічбамі, як з бяздоннага мяха. І было зразумела, што ён не супакоіцца, пакуль мегабайты сабранай інфармацыі спарадкавана не ўлягуцца пад вокладкамі энцыклапедычных даведнікаў.

І даведнікі (шматтомныя і шматстаронкавыя) пачалі выходзіць – адзін за адным: "Вынішчэнне: рэпрэсаваныя беларускія літаратары" (2000), "Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы" (2003–2007), "Рэпрэсаваныя праваслаўныя царкоўнаслужыцелі" (2007), "Рэпрэсаваныя каталіцкія дзеячы" (2009), "Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі" (2010)...

У Беларусі ніколі не было інстытута нацыянальнай памяці (як, прыкладам, Яд ва-Шэм у Ізраілі). І вось Леанід Маракоў – адзін! – стаў такім інстытутам. Ён сам здабываў інфармацыю, сам апрацоўваў тысячы персаналій, сам набіраў, сам рупіўся пра выданне. Адзін з даведнікаў ён надпісаў мне на пацешнай трасянцы, маўляў, выпускніку Радыётэхнічнага інстытута гэта даравальна: "Я адзін у полі воін, / значыць, Нобеля дастоін".

Замест Нобелеўскай Леанід атрымаў прэмію імя Францішка Багушэвіча – ад беларускага ПЭН-цэнтра. Але ніякія прэміі ўжо не маглі кампенсаваць выдаткаў на выданне ягоных даведнікаў. І Леанід стаў выпускаць іх уласным коштам. Спачатку знік з яго шыі залаты ланцуг, потым – мікрааўтобус "Таёта", на якім ён, вечна спяшаючыся, аб'язджаў архівы-рэдакцыі.

Маракоў падлічыў, што "з 540–570 літаратараў, якія друкаваліся ў Беларусі ў 1920–1930-я гады, бальшавікі рэпрэсавалі не менш за 440–460 (80%). А калі лічыць аўтараў, змушаных пакінуць Бацькаўшчыну, то пад рэпрэсіі падпалі не менш за 500 чалавек (90%), што складала чвэрць ад усіх рэпрэсаваных у СССР пісьменнікаў".

Даследчык настойваў, што гэта было мэтанакіраванае знішчэнне захопніцкім рэжымам беларускай эліты. Усё раскладваў па палічках: каго арыштавалі першым (Алеся Бурбіса – яшчэ ў 1917-м), каго першым расстралялі (Уладзіміра Стукаліча ў 1918-м), хто першым і апошнім загінуў на высылцы (Уладзімір Жылка ў 1933-м і Барыс Мікуліч у 1954-м), каго апошнім расстралялі ў мінскай "амерыканцы" (Янку Філістовіча ў 1953-м). Пра мэтанакіраванасць, на думку даследчыка, сведчыла і тое, каго колькі разоў арыштоўвалі: Мікалая Улашчыка, Ігната Дварчаніна, Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх – па 4 разы, Антона Луцкевіча, Канстанціна Езавітава, Вінцэнта Гадлеўскага і Сяргея Новіка-Пеюна – па 5 разоў, Анатоля Бонч-Асмалоўскага – 6 разоў, Язэпа Мамоньку – ажно 7 разоў. Як астатні аргумент называліся 5 хваляў арыштаў, што знішчальнымі цунамі пракаціліся па Беларусі: 1930, 1933, 1936–1937, 1939 і 1944–1949 гадах. Падлікі Маракова ўражвалі і пераконвалі, кагосьці – гнявілі.

Ён неаднойчы прызнаваўся, што яму пагражалі фізічнай расправай, калі не спыніць свае архіўныя вышукі. Леанід не спыніў. А ў кнізе "Толькі адна ноч" (2006) апублікаваў не толькі поўны спіс 103 расстраляных з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, але і прозвішчы афіцэраў дзяржбяспекі, якія займаліся катаваннямі ў мінскай турме НКВД. І сёння мы ведаем, хто давёў да вар'яцтва Цішку Гартнага, збіваў да страты прытомнасці Браніслава Тарашкевіча, рабіў "стойку на канвееры" Міхасю Зарэцкаму...

Леаніда Маракова ажно калаціла, калі ён загаворваў пра тых катаў. Але калаціла не ад страху – ад абурэння, што ахвяры ляжаць у безыменных магілах у неабсяжнай тундры, а іх забойцы ходзяць у персанальных пенсіянерах і папісваюць мемуары.

Самым нялюбым словам для Леаніда было "памяркоўны". Ён даводзіў, што памяркоўнасць беларусам накідаюць, каб потым лягчэй з імі распраўіцца. І – дэманстратыўна называў свае кнігі "Непамяркоўныя", "Непамяркоўныя-2".

За пятнаццаць гадоў актыўнай працы даследчык паспеў выдаць 30 тамоў, большасць з якіх – біяграфічныя даведнікі. Там – больш за 20.000 жыццяпісаў, прапушчаных праз сэрца. І камп'ютары не вытрымліваюць звышнагрузак, што ўжо казаць пра чалавека! Леаніда Маракова падкасіў інсульт, пасля якога ён ужо не ачуняў.

15 красавіка самаму працавітаму энцыклапедысту сучаснасці споўнілася б 60 гадоў…

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Традыцыі працягваюцца…

*Беларускі выйгралі два медалі на другім этапе Кубка свету па мастацкай гімнастыцы, які праходзіў у італьянскім Пезара.*

У групавых практыкаваннях **Ганна Гайдукевіч**, **Лаліта Мацкевіч**, **Дзіяна Місючэнка**, **Ганна Швайба** і **Анастасія Рыбакова** заваявалі серабро, у "індывідуалцы" беларуская гімнастка **Анастасія Салос** заняла 3-е месца ў практыкаваннях з мячом.

**Віктар ШПАК.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### Злачынствы і пакаранне

Я магу засведчыць урачыста,
Што жыццё мужчыны – бы ў рамане:
Жыць з чужою жонкаю – злачынства,
Жыць з уласнай жонкай – пакаранне.

### Зіма ці вайна?

Зноў пейзаж непрывабны, убогі…
І з'яўляецца думка ў мяне,
Як гляджу я на нашы дарогі,
Што канец не зіме, а вайне…

### Калі мы старэем

Ужо даўно я
Да дзядоў належу…
А ўвогуле: калі старэем мы?
Калі не модную,
А цёплую адзежу
У краме набываем да зімы…

### Бога няма

Нябёсы. Рай. Спакой вячысты.
– К табе, Ўсявышні, атэісты…
– І многа?
– Цэлая гурма.
– Скажы ім, што Мяне няма.

### Гразь

Запомніць варта:
Калі ты ад злосці
Гразёй захочаш кінуць
У кагосьці,
Не пападзе, магчыма,
Гразь у цэль,
Ды застанецца
На тваёй руцэ…

### Аптыміст

Сапраўдны аптыміст заўжды
Праігнаруе сум і жах.
Як нават прыйдзе на клады,
Плюсы разгледзіць у крыжах…

### Не бядуйце

Калі не званілі вам
Дзеці даўно,
Калі цэлы месяц –
Ні слова,
Дык вы не бядуйце,
Бо ясна адно:
Што грошай у іх –
Дастаткова…

### Перастрахоўка

Сябру я належнае аддам –
Расказаў мне
Жарт дасціпны гэты:
Аўтаматы выдалі "мянтам",
Каб не адабралі пісталеты…

### Дылема

Гады не тыя,
Дык здароўя мала,
І нават спатыкацца я пачаў.
Таму зусім не дзіва,
Што паўстала
Дылема,
Як наведаў я ўрача.
Дылема тая
Мне не даспадобы
(Дый кожнаму яна не па нутру):
Сканаю без лячэння ад хваробы,
Лячыцца буду –
З голаду памру…

### Праводзіны

Не праводзіны, а шок,
Госці ўсе жывыя ледзь…
Прызыўнік служыць пайшоў,
А радня й сябры – сядзець…

### Галубы і помнікі

Пацвердзіць гэта
Можа з вас любы:
Лёс абліваe брудам
І палошча:
Бываюць дні,
Калі мы галубы,
І дні,
Калі мы помнікі на плошчы…

### Прыдуркі

Цікаўны ў бабы Валі ўнук.
Хоць ён пакуль шасцігадовы,
Аднак жа схільны да навук
І стаць прафесарам гатовы.
Да ведаў прагнае дзіця
Жадае гаварыць аб розным.
– Бабуля, выраз мне няўцям –
"Ён меў гуманітарны розум".
– Магу сказаць адно: раней, –
Унук пачуў ад бабы Валі, –
Прыдуркамі такіх людзей
У вёсцы нашай называлі…



ПРОБЛЕМА

# Оплатил проезд или нет?



В последнее время в СМИ часто обсуждаются случаи конфликтов между пассажирами городского транспорта Минска и контролерами предприятия «Минсктранс». Но не всегда там говорится о сути проблемы. А между тем как трактовать термин «оплаченный проезд» применительно к реалиям современного Минска?

Государственное предприятие «Минсктранс» с апреля 2014 года использует новую технологию оплаты проезда в городском общественном транспорте. Я более 30 лет работал инженером на государственном предприятии и из собственной практики знаю, что для внедрения в производство новой технологии требуется проведение комплекса мероприятий, которые условно разделяются на два типа работ: работы «по железу» (изменение оснастки, приборов и т.п.) и работы с бумагой (инструкции, документация).

По прошествии трех лет функционирования новой системы оплаты проезда в общественном транспорте Минска можно сделать выводы, что технологи «по железу» сработали хорошо, а технологи «по бумагам» три года спали в шапку. Только разгильдяйством можно объяснить тот факт, что документ, регламентирующий отношения между пассажиром и перевозчиком («Минсктрансом»), не откорректирован до настоящего времени и остается в редакции 2008 года. Именно поэтому сложились противоречия между правилами «Условия проезда пассажиров» и практикой контроля оплаты проезда.

В «Условиях проезда» написано: *«Пассажир обязан своевременно приобретать билет и в полном объеме оплачивать проезд до начала поездки, сохранять билет до конца поездки и предъявлять его для проверки по требованию контролирующих лиц»*. Пассажир, покупая проездной в виде безлимитной бесконтактной смарт-карты (БСК), одномоментно оплачивает все предстоящие на определенный период (10 дней, 15 дней, месяц) поездки в выбранном виде транспорта. И при этом пассажир справедливо полагает, что, имея при себе проездной на троллейбус в виде безлимитной БСК, выполнил требования «Условий проезда» и не может быть обвинен в том, что он не оплатил проезд в троллейбусе. Контролеры же предприятия «Минсктранс» считают иначе и заявляют, что если при входе в троллейбус БСК не была приложена к валидатору (электронному считывающему устройству), то проезд не оплачен, а пассажир является «зайцем». Кто прав в этой ситуации?

Прикладывание лимитированной БСК к валидатору – это оплата одной поездки и регистрация данной БСК в транспортном средстве. Для безлимитной БСК это только регистрация БСК в транспортном средстве. (Оплата произведена ранее, при покупке безлимитного проездного билета.)

Проверяя проездные билеты с помощью теминалов «ПВР Дозор77», контролеры не учитывают разницы между лимитными и безлимитными БСК и неоправданно считают владельцев безлимитных БСК «зайцами». Получается, что из-за разгильдяйства «технологов по инструкциям» предприятия «Минсктранс» страдают и пассажиры, и контролеры, конфликты между которыми запрограммированы сложившимися обстоятельствами.

Чтобы подтвердить свои рассуждения фактами, я провел эксперимент. Десять дней в феврале 2018 года, совершая поездки по своим делам, я строго руководствовался правилами «Условий проезда». Предъявляя для проверки БСК, честно сообщал контролерам, что предъявляю безлимитный проездной на четыре вида транспорта, а также что при входе в транспортное средство БСК к валидатору не прикладывал, так как в «Условиях проезда» это не требуется.

За десять дней меня проверили восемь раз. При всех проверках контролеры заявили: «Проезд не оплачен». Дальше события развивались по-разному. Четыре раза после дополнительных проверок моей БСК на валидаторах троллейбусов контролеры говорили: «Да, оплачено. Счастливого пути!»

В двух случаях после проверки я был удален из троллейбуса на ближайшей остановке.

Один раз (контролер с номером 3387) я заплатил штраф 12,25 руб. и оплатил талон (60 коп.): штраф не освобождает от оплаты проезда. Во втором случае я сначала был оштрафован на 12,25 руб., но после моего отказа подписаться под заключением «безбилетный проезд» штраф был отменен, деньги мне возвращены. Дальнейший ход событий такой. С помощью вызванного контролером наряда милиции я был доставлен в ближайшее отделение милиции, где контролером был оформлен на мое имя протокол об административном правонарушении, а именно – проезде без оплаты в троллейбусе. В отделении милиции я предъявил все необходимые для проезда документы: безлимитную БСК, квитанцию на пополнение баланса БСК, свой паспорт. Сотрудники отделения милиции мне объяснили, что они не имеют права быть ни свидетелями, ни арбитрами в данной ситуации.

На мой взгляд, «Минсктранс» должен навести порядок в вопросе оплаты проезда, ведь безлимитными проездными пользуется немалая часть пассажиров, и неправильно полагать, что все они потенциальные «зайцы». Кроме того, возможность не прикладывать к валидатору безлимитный проездной в часы «пик» намного упростил бы процесс посадки пассажиров. Люди не толпились бы у валидаторов, не толкались бы у входных дверей, чтобы пройти в салон. Мне кажется, это настолько очевидно! Неужели чиновники этого не понимают? Или не хотят?

Если у чиновников есть иные объяснения, почему необходимо все проездные документы прикладывать к валидатору, тогда будьте добры внести необходимые изменения (пояснения по поводу правил использования БСК) в «Условия проезда».

**Александр ЖУКОВ.**
*Минск.*

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПОГЛЯД

# Улады не павінны парушаць правы сям'і

На маім стале ляжыць тоненькая кніжачка з назвай "Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека". Звяртаю ўвагу на артыкул 23, у якім запісана: *"Кожны, хто працуе, мае права на справядлівую і здавальняючую ўзнагароду, якая забяспечвае годнае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і і дапаўняецца пры неабходнасці іншымі сродкамі сацыяльнага забеспячэння"*.

Падкрэсліваю словы **"яго самога і яго сям'і"**. Гэта значыць, што адзін член сям'і, які працуе, павінен мець магчымасць годна ўтрымліваць сябе і сваю сям'ю.

На жаль, Кодэкс аб шлюбе і сям'і Рэспублікі Беларусь не вызначае ў колькасным вымярэнні, што такое сям'я, аднак у адпаведнасці з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека сям'ёй мы лічым саюз мужчыны і жанчыны.

Працаваць ці не працаваць мужу альбо жонцы – гэта справа сям'і, бо калі адзін працуе і атрымлівае за працу ўзнагароджанне, якое забяспечвае годнае чалавека і яго сям'і існаванне, то другі член сям'і (незалежна ад полу) можа смела займацца хатняй гаспадаркай і выхаваннем дзяцей (у дужках адзначым, што гэта таксама грамадска карысная дзейнасць, таксама праца).

Цяпер вернемся да нашых рэалій і пытанняў, якія ўзнікаюць пасля прачытання дэкрэта №1 "Аб садзеянні працаўладкаванню насельніцтва".

Калі ў сям'і працуе адзін з двух членаў сям'і (муж альбо жонка), а другі не працуе, то як гэты дэкрэт будзе дзейнічаць адносна сям'і? Ці будзе сям'і выстаўляцца поўны кошт на аплату паслуг з кампенсацыяй затрат, ці гэта будзе рабіцца прапарцыянальна колькасці працуючых і непрацуючых у грамадскім сектары членаў сям'і? Вось на гэтыя пытанні пакуль што няма адказу.

Думаю, што тым, хто засядае ў Палаце прадстаўнікоў, а таксама чыноўнікам, якія рыхтавалі дэкрэт №1, трэба мяняць свой падыход да сацыяльных праблем і пераходзіць на мысленне іншымі катэгорыямі. У гэтым мысленні трэба кіравацца ў першую чаргу катэгорыяй "сям'я", і на сям'ю трэба вызначаць мінімальны заробак у краіне, а не на асобнага работніка.

Акрамя таго, распрацоўшчыкі дэкрэта №1, хацелі яны таго ці не, прадэманстравалі права дзяржавы ўмешвацца ў прыватную прастору сям'і, а гэта не што іншае, як рэцыдыў савецкага таталітарысцкага мыслення.

У сацыяльна развітых краінах калі ў сям'і працуе адзін чалавек, то ён цалкам можа забяспечыць сваю сям'ю мінімальнымі базавымі патрэбамі, а калі ў сям'і працуюць два чалавекі, то іх ужо можна аднесці да заможных, бо ў матэрыяльным плане яны могуць сабе дазволіць значна больш. І там дзяржава ніколі не будзе прымушаць другога члена сям'і працаўладкавацца, не будзе абкладаць яго падаткам за "дармаедства" ці проста выстаўляць яму рахунак на поўную аплату паслуг з кампенсацыяй затрат, як гэта адбываецца ў нас.

Калі нашы чыноўнікі навучацца ў падыходзе да пэўных сацыяльных пытанняў кіравацца паняццем "сям'я", такі падыход, лічу, кардынальна зменіць сітуацыю на рынку працы і закладзе аснову сацыяльнай дзяржавы, годнага існавання ўсіх грамадзян.

**Ігар БАРЫСАЎ,**
**старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады).**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО!

# Почему государство молчит, или оно не слышит народ?

Прежде чем приступить к рассмотрению вопроса по существу, хочу сказать несколько комплиментов «Народной Воле», которая является одной из немногих, а может даже, и единственной газетой в стране, которая поднимает острые и наболевшие вопросы, защищает права граждан, отражает их справедливые требования к власти, является «подушкой справедливости», в которую можно поплакаться, когда тебя не слышит государство и обманывают чиновники.

Мне кажется, что государство выжидает, когда же уйдет в мир иной последний вкладчик Сбербанка. Именно Сбербанку в свое время народ доверил денежные сбережения, и многие еще живут надеждой, что обещания президента страны будут выполнены. Президенту можно простить, так как это было сказано давно, еще в первую предвыборную кампанию.

А вот что касается Национального банка, председателем которого был Герой Беларуси Петр Прокопович, то у него оказалась короткая память. Хочется напомнить, что тот же Прокопович обещал приступить к возврату банковских вкладов в 2012 году. Сегодня у нас уже 2018-й…

Банк пошел по другому пути. На мое обращение в «Беларусбанк» о возврате моих сбережений в сумме 50 тысяч советских рублей, пришла отписка следующего содержания: *«За время хранения Вашего вклада в Республике Беларусь проведены две деноминации белорусского рубля. На основании Постановления Кабинета Министров и Национального Банка Республики Беларусь от 12.08.1994 №15/1 «О деноминации белорусского рубля» и Указа Президента Республики Беларусь от 19.10.1999 №613 «Об изменении нарицательной стоимости денежной единицы Республики Беларусь и масштаба цен» остатки денежных средств во вкладах уменьшены по состоянию на 20.08.1994 в 10 раз и на 01.01.2000 – в 1000 раз. Таким образом, остаток вклада уменьшен в 10.000 раз, и в настоящее время остаток вклада меньше минимальной денежной единицы Республики Беларусь. Но информация о Вашем счете хранится в Банке»*. Такой ответ вряд ли кого-то обрадует!

Хочется обратиться в Администрацию президента Республики Беларусь. Неужели в штате Администрации нет сотрудника, который отслеживал бы острые вопросы, поднимаемые в СМИ, и доводил их до сведения главы государства? Но если такая работа проводится и президент знает о наболевших вопросах, то почему проблема возврата вкладов умалчивается? Ни слова не сказано на Всебелорусском собрании, в посланиях президента народу.

Кто наконец осмелится сказать правду о состоянии дел с возвратом вкладов? Может, Конституционный суд внесет ясность?

«Народная Воля» неоднократно писала на своих страницах и предлагала пути решения этого вопроса. Но пока власти не слышат.

Если допустить, что государство не может, а скорее всего, не хочет решить этот вопрос с ныне еще здравствующими вкладчиками, то пусть заверят, что вклады будут возвращены их детям или внукам. Ведь Петр Петрович заверял, что ни одна копейка не пропадет. Все будет возвращено народу.

Но если и это не захотят сделать, то предлагаю построить еще один красивый дворец в центре столицы в память о невинно пострадавших банковских вкладчиках.

Прошу высказаться на этот счет читателей газеты «Народная Воля».

**Василий БОЛДЫШЕВ,**
**пенсионер.**
*Минск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# «Знайсці працу ў горадзе складана…»

*У №29 за 10 красавіка "Народнай Волі" пра заробкі выхавальніцы дзіцячых садкоў расказала былая загадчыца светлагорскага садка Алена Галаўко. Наколькі я помню, гэта з садка, які яна ўзначальвала, у студзені збеглі дзеці. Чым скончылася тая гісторыя, ці была заведзена крымінальная справа? І дзе зараз працуюць звольненыя выхавальніца і загадчыца садка?*

**І.ЛАГУН,**
**Гродзенская вобласць.**



Так, Алена Галаўко ўзначальвала светлагорскі дзіцячы садок №21, дзе ў студзені адбылося надзвычайнае здарэнне, якое ўскалыхнула ўсю краіну: 3- і 4-гадовы хлопчыкі ўвечары збеглі з садка, дайшлі па чыгуначных пуцях да станцыі, самастойна селі ў дызель і даехалі да Жлобіна. Адразу ж пасля гэтай неверагоднай гісторыі па артыкуле былі звольнены **Алена Рудабелец**, выхавальніца групы, з якой збеглі дзеці, і загадчыца садка **Алена Галаўко**.

Крымінальная справа заведзена не была. Як кажуць сёння ў садку – не было складу злачынства, усе засталіся, дзякуй Богу, жывыя, а бацькі дзяцей нікому прэтэнзій не прад'яўлялі.

– Алена Валер'еўна Рудабелец уладкавалася працаваць у Белдзяржстрах, – расказвае былая загадчыца садка Алена Галаўко. – Я пакуль нідзе не працую, жыву на пенсію. У нашым горадзе вельмі складана з працай. Толькі калі ўладкавацца тэхперсаналам. У педагогіку пасля ўсяго, што здарылася, я, вядома, не вярнуся.

Крыж пастаўлены на маёй кар'еры і педрабоце, хаця стаж у дашкольнай адукацыі больш за 30 гадоў, я заканчвала педвучылішча, потым Магілёўскі педінстытут.

**– А пенсія, калі не сакрэт, якая?**

– Маленькая, 330 рублёў, але ў нашай сферы гэта лічыцца добрай пенсіяй… Грошай не хапае, тым больш што я жыву не адна – з унучкай. Але нічога, вучымся эканоміць…

Некаторыя мае калегі са Светлагорска падпрацоўваюць у Маскве. Уладкоўваюцца там выхавацелямі, гувернанткамі дзяцей багатых бацькоў. Працуюць як бы вахтавым метадам. Я так працаваць не гатова. І цяжка, і, калі шчыра, страшнавата. Пасля стрэсу, які перажыла ў студзені, толькі зараз крыху адыходжу…

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

МНЕНИЕ

# Музей Коласа – не частная собственность

Здравствуйте, уважаемая редакция! Я "Народную Волю" выписываю давно и очень ее люблю. Только в вашей газете можно почитать о наших проблемах. Хочу поблагодарить весь коллектив за то, что освещаете важные и острые темы. Особо хочу выразить признательность Михасю Скобле за статью "Як шукаюць ворагаў у Музеі Коласа" ("НВ" за 16 марта).

Я часто бываю в этом музее на разных мероприятиях, люблю поговорить с его работниками. С их слов я знала, как неуважительно директор Зинаида Комаровская относится к семье народного песняра. Она ведет себя так, как будто музей – ее частная собственность. А ведь Якуб Колас – достояние всей нашей страны, всего белорусского народа. Я считаю, что подобное отношение к его семье со стороны директора – позор для государственного музея, для страны. Как только Министерство культуры такое допускает?

**Н. КРУГЛИК.**
*Минск.*



Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 КРАСАВІКА 2018 г.

НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

## Школьнікі-мусульмане звярнуліся да міністра

Школьнікі-мусульмане з маленькага баварскага горада Пенцберг накіравалі відэазварот міністру ўнутраных спраў Федэратыўнай Рэспублікі Германія Хорсту Зеехоферу. Паколькі ў краіне працягваецца палеміка вакол ісламу, дзеці пад уплывам імама Бенжаміна Ідрыза, які выкладае ім пачаткі рэлігіі, звярнуліся да міністра, скандзіруючы перад відэакамерай: "Іўдаізм з'яўляецца часткай Германіі! Хрысціянства з'яўляецца часткай Германіі! Іслам з'яўляецца часткай Германіі! Мы з'яўляемся часткай Германіі!"

Ці атрымаў міністр гэты зварот і ці паспеў ён азнаёміцца з пазіцыяй школьнікаў, пакуль не вядома.

## Мільярдэра больш ніхто не шукае

Афіцыйна абвешчана пра тое, што скончыліся пошукі кіраўніка фінансава-прамысловай групы Tengelmann Карла-Эрывана Траўба. 58-гадовы мільярдэр знік 7 красавіка ў Альпах, куды накіраваўся, каб адпачыць і пакатацца на горных лыжах. Траўб меў вялікі лыжніцкі і альпініцкі досвед, таму ўвесь гэты час сям'я спадзявалася, што яго ўсё ж такі знойдуць. Зараз надзей не засталося, пра што афіцыйна паведаміла сям'я мільярдэра.

## Меркель – за пчол!

Федэральны ўрад Германіі падтрымаў ідэю забараніць ужыванне ў Еўропе пестыцыдаў нікатыноідаў, якія шкодзяць пчолам. За апошнія 30 гадоў колькасць пчол скарацілася ў Германіі на тры чвэрці, а гэта вельмі дрэнна адбіваецца на ўсёй экалагічнай сістэме.

Еўрапейская камісія будзе галасаваць па гэтым пытанні 27 красавіка і, як чакаюць нямецкія эколагі, хутчэй за ўсё, прыме станоўчае рашэнне.

## Гамбург запальвае чырвоны ліхтар. У музеі

Пасля доўгага перапынку ў Гамбургу зноў пачынае працаваць музей эратычнага мастацтва. Ён знаходзіцца побач з вядомым "кварталам чырвоных ліхтароў" Рэпербан. Музей быў адчынены ў 1992 годзе, і колькасць яго наведвальнікаў перавысіла два мільёны чалавек, але ў мінулым годзе музей зачыніліз-за таго, што гарадскія ўлады не прыйшлі да паразумення з яго былым гаспадаром.

Зараз музей ізноў працуе, і ўваход у яго бясплатны: гаспадар дацірує яго за кошт выручкі кіёска сувеніраў, які адкрыты пры музеі. Кажа, што грошай хапае.

## «ЗІЛ» Брэжнева прадаецца за мільён

Невядомая асоба выставіла на продаж у маленькім мястэчку Косвіг побач з Лейпцыгам лімузін "ЗІЛ-114", які, згодна з абвесткай, раней належаў былому савецкаму кіраўніку Леаніду Брэжневу. Дакладна не вядома, ці сапраўды гэты экзэмпляр належаў Генеральнаму сакратару ЦК КПСС і як ён апынуўся ў Германіі, але ж менавіта такія аўтамабілі абслугоўвалі вышэйшае кіраўніцтва СССР і сацыялістычных краін.

Пра гэтую машыну дакладна вядома, што яе сабралі ў 1970 годзе, а прабег яе складае 46.150 кіламетраў. Амаль што новая машына. І каштуе нядорага – гаспадар просіць за яе 999.999 еўра. Амаль мільён. За такія грошы можна набыць два новыя "ролс-ройсы", але ж без брэжнеўскай легенды.

## 30 мільёнаў еўра на оперны тэатр

У баварскім горадзе Байройце пасля рэстаўрацыі адкрылася славутая Маркграфская опера, унесеная ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Урад федэральнай зямлі Баварыя выдаткаваў на рэстаўрацыю будынка больш за 30 мільёнаў еўра.

12 красавіка адбыўся знакавы спектакль – опера Ёгана Адольфа Хасэ "Артаксеркс", прэм'ерай якой тэатр адкрываўся ў 1748 годзе.

Тэатр будаваўся для любімай сястры караля Прусіі Фрыдрыха Вялікага Вільгельміны, якая была замужам за маркграфам Байройцкім. Зала з трыма ярусамі лож, разлічаная на 500 гледачоў, цалкам аздоблена разьбой па дрэве. Сцэну ўпрыгожвае раскошная заслона.

Апроч старой Маркграфскай оперы Байройт сусветна вядомы таксама сваімі фестывалямі музыкі Рыхарда Вагнера. У 1876 годзе адмыслова для яго быў пабудаваны Летні тэатр.

У Байройце сёння пражывае крыху больш за 72.500 жыхароў.

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# На пятом году войны Украина решила порвать с «наследием империи». К чему бы это?



12 апреля, выступая на XI Форуме безопасности в Киеве, президент Украины Петр Порошенко сделал резонансные заявления, затрагивающие отношения его страны с умирающей, но еще огрызающейся советской империей.

Первое: «Учитывая то, что Украина никогда не была членом СНГ, и отказ этой структуры осудить российскую агрессию, просил бы, чтобы мы совместно с правительством подготовили предложения относительно официального прекращения нашего участия в уставных органах СНГ, равно как и об окончательном закрытии украинского представительства при соответствующих институтах в Минске».

Второе: «Агрессия РФ против Украины продолжается до сих пор. В этих условиях следующим шагом я внесу в парламент законопроект о немедленном одностороннем прекращении действия отдельных положений договора о дружбе, сотрудничестве и партнерстве между Украиной и Россией в части, в которой действие этого договора несовместимо с национальными интересами государства и реализацией нашего права на самооборону».

Вероятно, по замыслу политтехнологов, эти заявления должны были вызвать «девятый вал», на гребне которого Петр Порошенко на старте избирательной кампании обойдет всех потенциальных участников «президентской регаты». Но, судя по всему, получился фальстарт.

Инициативы гаранта мало кого заинтересовали. Штатные политкомментаторы пытались рассуждать на заданную тему. Но это были третьестепенные лица из депутатской когорты, комментарии давались вяло: мол, мы приветствуем, но надо было бы уже давно; лучше поздно, чем никогда...

Премьер-министр и председатель Верховной Рады, которым адресовались эти президентские инициативы, и вовсе промолчали. Что это означает – что с президентом идут торги накануне выборов? Или основные игроки его просто откровенно слили? Формируются новые политические конфигурации, в которых Порошенко будет вынужден торговаться за свою неприкосновенность? Заманчивая перспектива для гаранта.

Но президентские месседжи адресовались, конечно, не только политическим элитам, но и потенциальным избирателям. Как воспримут они «громкие» заявления Порошенко? Можно предположить, что в лучшем случае эти попросту не принесет Петру Алексеевичу никаких электоральных дивидендов. Сейчас не 2014 год, когда нынешний председатель Верховной Рады Андрей Парубий уже заявлял о выходе Украины из СНГ. В 2015 году в парламент вносились постановления и предложения по этой теме, которые благополучно «похоронили». В 2018-м году подобные заявления звучат уже как заезженная пластинка. Поэтому у большинства политически активных граждан «новые» инициативы президента вызывают лишь раздражение.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

У СУСЕДЗЯЎ

# Польшча зменіць Канстытуцыю?

26 красавіка прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда плануе распачаць дыскусію наконт змен у Канстытуцыю краіны. На дэбаты з удзелам прэзідэнта будуць запрошаны эксперты па пытаннях канстытуцыйнага і міжнароднага права, а таксама прадстаўнікі мясцовага самакіравання.

Свой намер правесці канстытуцыйны рэферэндум Анджэй Дуда абвясціў яшчэ 3 мая 2017 года, канкрэтызаваўшы, што рэферэндум мог бы прайсці ў 100-ю гадавіну аднаўлення польскай незалежнасці – 11 лістапада 2018 года. Дакладна наконт тэрмінаў правядзення плебісцыту мусіць выказацца Сенат Польшчы, у якім у правячай партыі "Права і Справядлівасць" (членам яе з'яўляецца і прэзідэнт Дуда) ёсць неабходная большасць.

Заяве Анджэя Дуды папярэднічаў чарговы з'езд "ПіС", на якім урад абвясціў свае ініцыятывы, якія могуць сур'ёзна паўплываць на настрой выбаршчыкаў. У прыватнасці, было абвешчана, што ўрад мае намер прыняць шэраг сацыяльных праграм, у прыватнасці: павысіць дапамогу сем'ям палякаў, якія хутка пасля нараджэння першага дзіцяці вырашаць нарадзіць другое; вярнуцца да практыкі будавання таннага дзяржаўнага жылля; увесці дзяржаўную дапамогу, каб сабраць дзіця ў школу напярэдадні навучальнага года, і гд. Сацыёлагі кажуць, што значная частка насельніцтва верыць у тое, што "ПіС" сапраўды пабудуе сацыяльную дзяржаву, і гэта можа дапамагчы партыі Яраслава Качыньскага пабудаваць такую мадэль самакіравання, якая дазволіць ёй утрымліваць ўладу калі не бясконца, дык вельмі працяглы час.

Магчыма, рэферэндум будзе аб'яднаны з мясцовымі выбарамі, што дапаможа "ПіС" атрымаць кантроль над значнай часткай органаў мясцовага самакіравання, тым самым гарантуючы і пажаданы вынікі напярэдадні парламенцкіх выбараў.

Хутчэй за ўсё, "ПіС" атрымае таксама падтрымку Каталіцкага касцёла, значная частка радыкальных прадстаўнікоў якога зацікаўлена ў больш кансерватыўным шляху развіцця Польшчы – а гэта менавіта тое, што пракламуе Яраслаў Качыньскі.



ЧУЛІ?

# Новы кіраўнік Вострава Свабоды насіў доўгія валасы і захапляўся музыкай «Бітлоў»



19 красавіка Нацыянальная асамблея Кубы абяра новы склад Дзяржаўнай Рады Вострава Свабоды, куды не плануе ўваходзіць Рауль Кастра – брат легендарнага рэвалюцыянера і сённяшні кіраўнік краіны. Яму 86 гадоў, ён сыходзіць з выканаўчай улады, але пакідае за сабой пасаду кіраўніка Камуністычнай партыі Кубы да будучага з'езда, які мусіць адбыцца ў 2021 годзе. Пакуль што ён захавае і кантроль над сілавымі ведамствамі: сын Рауля, 52-гадовы палкоўнік МУС Аляхандра Кастра Эспін, узначальвае Раду нацыянальнай абароны і бяспекі Кубы і нават быў кіраўніком кубінскай дэлегацыі падчас сакрэтных перамоў са Злучанымі Штатамі Амерыкі, якія праходзілі ў Ватыкане і Канадзе пры пасрэдніцтве Каталіцкай царквы. Пакаазальна, што Рауль Кастра адмовіўся ад ідэі пакінуць у якасці свайго пераемніка сына: магчыма, ён разумее, што кубінскі народ паспеў стаміцца ад Кастра ва ўладзе.

Пераемнікам Рауля Кастра на пасадзе старшыні Дзяржаўнай Рады, як плануецца, стане 58-гадовы Мігель Марыа Дыяс-Канель. Гэта будзе першы кіраўнік Кубы, які нарадзіўся пасля рэвалюцыі 1959 года. Дагэтуль ён займаў пасаду першага намесніка старшыні Дзяржаўнай Рады.

Паводле адукацыі тавараыш Дыяс-Канель – інжынер-электроншчык. Пасля ўніверсітэта ён тры гады адслужыў у войску, два гады выкладаў у родным Цэнтральным універсітэце Лас-Вільяс, пасля чаго быў накіраваны на працу ў Саюз маладых камуністаў Кубы – аналаг савецкага камсамола. Кажуць, што ў маладосці ён насіў доўгія валасы і захапляўся музыкай легендарных "Бітлз".

Дыяс-Канеля накіроўвалі ў складзе кубінскіх ваенных дарадцаў у Нікарагуа; там ён займаўся не вайсковымі справамі, а ідэалагічнай работай з нікарагуанскай моладдзю. Пасля таго як сандзіністы былі вымушаны пайсці на дыялог з апазіцыяй, вярнуўся на радзіму, дзе працаваў на партыйных пасадах, міністрам адукацыі і віцэ-прэм'ерам. Яго лічаць добрым кіраўніком, але ж ён не мае рэвалюцыйнага досведу і харызмы, якая была ўласціва братам Кастра. Ён дастаткова вядомы і папулярны на Кубе, але ж зразумела, што гэта пакуль не вядомасць першай асобы краіны. Эксперты лічаць, што ў Дыяс-Канеля ёсць шанц рэфармаваць кубінскую дзяржаву, але ж пэўны час ён будзе вымушаны азірацца на клан Кастра, якому ён шмат чым абавязаны ў сваёй кар'еры.

Дыяс-Канель жанаты другім шлюбам, ад першага шлюбу мае двух дзяцей.

ІХ ДЭМАКРАТЫЯ

# Ізраіль паляпшае ўмовы ўтрымання тэрарыстаў у турмах

Служба выканання пакаранняў Ізраіля ШАБАС паведаміла пра павелічэнне магчымасці сустрэчы асуджаных тэрарыстаў са сваякамі. У мінулым годзе зняволеныя тэрарысты мелі больш за 150 тысяч спатканняў – больш як два спатканні ў месяц на кожнага з 2600 зняволеных.

У мінулым годзе асуджаныя ўдзельнікі тэрарыстычных актаў з тэрыторыі Палесціны абвясцілі галадоўку пад кіраўніцтвам тэрарыста Маруана Баргуці, які адбывае пакаранне ў пяць пажыццёвых тэрмінаў. Галадоўка спынілася пасля таго, як былі апублікаваны кадры, на якіх выразна бачна, як Баргуці прымае ежу ўпотайкі ад сваіх таварышаў. Але ж, нягледзячы на гэта, улады Ізраіля задаволілі патрабаванні вязняў.

Нагадаем, што спатканні са сваякамі ў беларускіх турмах і калоніях іншы раз з'яўляюцца адным з інструментаў ціску на зняволеных. Яны не маюць гарантыі, што іх не пазбавяць спаткання. Гэта дало падставу шэрагу праваабаронцаў сцвярджаць, што такая адмова адміністрацыі турмы ці калоніі з'яўляецца адной з формаў катавання – у першую чаргу ў дачыненні да тых вязняў, чые прысуды былі палітычна матываванымі. У прыватнасці, пасля арыштаў снежня 2010 года адвакатам і сваякам вязняў "амерыканкі" адмаўлялі ў спатканнях з падследнымі, аргументуючы гэта тым, што адміністрацыя не мае магчымасці задаволіць усе просьбы.

Як бачым да палесцінскіх тэрарыстаў у турмах Ізраіля ставіцца лепш, чым, бывае, да некаторых нашых палітзняволеных.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Бярэсце




Кажуць, гарады, крэпасці, замкі, пабудовы, як і людзі – нараджаюцца, атрымліваюць сваё імя, ствараюць сваю біяграфію і свой лёс і... паміраюць. Шмат старадаўнасцяў знікла пад пылам гісторыі і попелам войнаў і на беларускай зямлі. Аднак дзякуючы людской дапытлівасці і настойлівасці час ад часу даецца шанц пабываць у гасцях у вечнасці.

Такую чароўную магчымасць дарує старажытнае Берасцейскае гарадзішча. Тут, на глыбіні сямі метраў, у нетрах сівой гісторыі створаны адзіны такога кшталту на Беларусі археалагічны музей.

Бярэсце… Хто і калі прыдумаў гэткую мілагучную назву?

Было тое за далёка далёкім, яшчэ язычніцкім часам, калі людзі пакланяліся камяням, дрэвам,ператвараліся ў звяроў і птушак. Адзін багаты купец вёз на беразе Балтыкі свой тавар. Ды загруз ён у палескім балоце. Каб вызваліцца, зладзіў з беластволых бяроз і бяросты плаціну, замасціў балота. Па гэтай гаці і выбраўся знаны госць. На сухім зямлі? Зазмейстраваў ён капішча і прынёс ахвяру сваёму язычніцкаму богу Вялесу. А месца гэтае назваў Бярэсцем. Так і з'явіўся на зямлі дрыгавічоў старажытны горад, над якім і дагэтуль кучаравымі воблакамі курацца легенды і паданні.

Давайце і мы праз стагоддзі спусцімся на яго ныя вулачкі, зазірнем у хаціны берасцян.

Чуеце, як па ходніках з тоўстых колатых дошак з кашачаю асцярогай крадзецца сама гісторыя? Адчуваеце, як у звечаралай ціцыні мухавецкія туманы пахнуць рыбай і сенакосам? Чуеце, як па барах з ёкатам разлятаецца паляўнічае рэха? Бачыце, як босыя ганарыстыя бярозы, нібыта берасцянскія прыгажуні, атуліліся зялёнымі намітками і сцерагуць спакой старажытнага Бярэсця?..

Прымружце вочы і вы ўявіце, як шчыравалі тут злотнікі і мечнікі, шкляробы і ганчары, кавалі і ігольнікі, шаўцы і краўцы, шапачнікі і ліцейшчыкі. А як годна і дагэтуль выглядаюць шматсотгадовы жаночыя ўпрыгажэнні – бранзалеты, падвескі, металёвыя пярсцёнкі, спражкі, вырабы са скуры, кашалькі, абутак і нават знойдзеная ў раскопе вязаная рукавіца. А дубовае рала, адзінае для таго часу ў Еўропе, здаецца, яшчэ захоўвае мазольнае цяпло берасцейскіх аратых, што шчыравалі на роднай зямлі.

Аднак умелі берасцяне і годна адпачываць. Сведчанне таму – шахматныя фігуркі, шашкі, косці для гульні, мастакоўскія прыналежнасці, металічныя пісалы, скураныя мячы. Але, бадай, ці не галоўным клопатам берасцян была абарона роднага горада ад рознай навалачы. Таму з усёй жарствой саплі тут кавальскія горны, гартуючы наканечнікі стрэлаў, шпоры, кальчугі.

А зараз можаце пачуць іншы звон. Гэта працуе першы і адзіны на тэрыторыі Беларусі манетны двор Рэчы Паспалітай. Ён быў заснаваны ў Бярэсці ў 1659 годзе. Тут чаканілі дробныя медныя манеты солиды. Ад прозвішча арандатара двара Ціта Лівія Бараціні яны называліся яшчэ бараціякамі.

Не раз сур'ёзна і самавіта шумелі ў Бярэсці сеймы і з'езды беларускіх і літоўскіх магнатаў, дзяржаўныя сходы і зборы Рэчы Паспалітай. Таму трошкі ўяўлення – і вы можаце сустрэць тут польскіх каралёў Баляслава Храбрага і Казіміра III, кіеўскага князя – Яраслава Мудрага, валынскіх князёў Уладзіміра Васількавіча і Мсціслава Данілавіча. А вунь, бачце, вялікія князі літоўскія Гедымін і Кейстут… Ось колькі іх вявала і змагалася за Бярэсце…

Паслухалі? Паглядзелі? А цяпер давайце завітаем у госці. Зойдзем у любую з 200 адкапаных археолагамі пабудоў, якія шчыльненька, у тры-чатыры шарэнгі, выстраіліся між трох паралельных вуліц.

Амаль квадратныя хаціны з круглага хваёвага бярвення мелі падлогу з тоўстых колатых дошак. У куце ля ўваходу курная печ. Акенцы малюсенечкія – як сапраўдныя шчыліны. Дзверы, каб цяпло дарэмна не марнавалася, каля аднаго метра ўвышкі. Хаваючыся ад цікаўных вачэй, хаты стаялі глухой сцяной да вуліцы. Фундаментамі часта служылі рэшткі ранейшых збудаванняў.

Непаўторная адметнасць раскапанага берасцейскага гарадзішча ў тым, што жылыя і гаспадарчыя пабудовы як нідзе болей выдатна захаваліся. Будынкі маюць па 6–9 вянкоў. Ёсць і наогул унікальны зруб вышынёй 12 вянкоў. Выяўлены нават цэлы дваровы комплекс – жылы дом, паветка для жывёлы, невялікі надворак, абгароджаны частаколам. Археолагі адшукалі тут самы першы, самы старажытны і адзіны на тэрыторыі Беларусі буквар. Ім з'яўляецца самшытавы грэбень, на абодвух баках якога яшчэ ў пачатку XIII стагоддзя выразана 13 кірылічных літар – ад А да Л.

Упершыню Бярэсце згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1017 і 1019 гадамі. За доўгую гісторыю гораду часта выпадала быць цэнтрам вялікіх і значных падзей. У 1553 годзе берасцейскі староста, віленскі ваявода і літоўскі канцлер, нясвіжскі князь Мікалай Радзівіл Чорны заснаваў тут першую на Беларусі друкарню, з якой пайшла ў свет знакамітая і вельмі рэдкая зараз Брэсцкая Біблія.

У канцы XVI стагоддзя ў горадзе ўзнікла праваслаўная брацкая школа, у якой настаўнікам быў вядомы беларускі асветнік Лаўрэнцій Зізаній. У XVII стагоддзі ў езуіцкім калегіуме вучыўся, а пасля быў памочнікам рэктара беларускі мысліцель Казімір Лышчыньскі. Гэта яго, сярэдневечнага атэіста і філосафа, 30 сакавіка 1689 года спалілі на кастры ў Варшаве. А берасцейская сінагога лічылася самай старажытнай і першай у Еўропе.

Мо за такую слынную мінуўшчыну і размаітае багацце Бярэсце станавілася аб'ектам частых нападаў. Як вабны райскі яблык. Не раз нават вецер галасіў тут і войкаў ад жудасці, калі летапісны горад быў дашчэнту зруйнаваны і спалены, разрабаваны і знішчаны. Аднак на хісткіх сцежках паміж войнамі і мірам Бярэсце настойліва адбудоўвалася зноў і зноў.

Калі ў пачатку XV стагоддзя над горадам навісла чарговая пагроза з боку Тэўтонскага ордэна, нараду ў Бярэсці правялі польскі кароль Ягайла і вялікі князь літоўскі Вітаўт. Быў выпрацаваны сумесны план адпору крыжакам, якія злоцела руйнавалі славянскія землі. 15 ліпеня 1410 года адбылася знакамітая бітва на Грунвальдскім полі, дзе зарунела і нашая нязломнасць, якая шматкроць каласілася на беларускай зямлі. Разам з іншымі ў той бітве перамогу здабывала і Берасцейская харугва. З таго часу ўзброеныя германцы больш за 500 гадоў баяліся ступаць на беларускія землі.

Ды няўмольны час не пашкадаваў старажытнага горада. Берасцейскае гарадзішча стала падмуркам Брэсцкай крэпасці, назаўсёды схавалася пад пылам гісторыі.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

## Ад аўтара

***З кожным годам у краіне становіцца ўсё менш і менш непасрэдных сведак нямецкай акупацыі. Ніхто больш за іх не валодае праўдзівай інфармацыяй пра гэты пакутлівы час у жыцці беларускага народа. Вельмі шкада, што ў нас не вядзецца на афіцыйным узроўні сістэмная праца па зборы інфармацыі ад такіх сведак пра звязаныя з нямецкай акупацыяй падзеі. Сёлета ж спаўняецца роўна 77 гадоў, як яна няпрошаным госцем усталявалася ў нашым краі. Ці ж гэта не нагода, каб штосьці даведацца пра яе не толькі з кніг, а і ад непасрэдных сведак? Нагода, ды яшчэ якая! Грэх не выкарыстаць яе.***

***Стаць апавядальнікам пра жыццё ў гады акупацыі – гэта, без перабольшвання, наш нацыянальны абавязак. Добра было б, каб для такога роду ўспамінаў не шкадавалі сваіх старонак нашы раённыя, гарадскія і абласныя газеты. У велізарнай каштоўнасці такіх матэрыялаў для аднаўлення ўсенароднай памяці пра нямецкую акупацыю Беларусі не можа быць аніякіх сумненняў. Менавіта гэта і падштурхнула мяне ўзяцца за пяро, нягледзячы на тое, што мне ідзе ўжо 90-ы год, і хоць збольшага паказаць перажытае маім родным мястэчкам Магільнае (у вымаўленні мясцовых жыхароў на канцы назвы іх населенага пункта чуецца літара “е”. – Аўт.) у самыя цяжкія часы яго гісторыі.***

### 1.Крыху перадгісторыі

Вайна фашысцкай Германіі з СССР адзіная ў сваім родзе. Але яна не аднолькавая ў лёсах людзей. Кожны перажыў яе па-свойму, у многім зусім не так, як іншыя. Як пачалася вайна, мала хто думаў, што стане яе героем ці ахвярай, пойдзе ў партызаны ці адзенецца ў форму паліцэйскага. І даволі часта ў выбары таго ці іншага варыянту ледзь не вырашальную ролю адыгрываў выпадак, чым свядомае абдумванне, на якім баку барыкад заняць сабе месца.

Калі на беларускую зямлю звалілася гэтае нечуванае гора, мне ішоў трынаццаты год. Нарадзіўся і жыў за тры кіламетры ад савецка-польскай дзяржаўнай мяжы 1939 года. У нашым мястэчку Магільнае, што на Вуздзеншчыне (*у нашай мясцовасці і тады, і зараз слова Вузда вымаўляюць з выразнай прысутнасцю ў ім першай літары “В”, таму, каб не парушаць такога правіла, і я прытрымліваюся яго на пісьме. – Аўт.)*, і перад самай вайной размяшчалася пагранічная камендатура. За рэдкім выключэннем, усе дзеці, а сярод іх і я, раслі вялікімі, шчырымі патрыётамі СССР. Лічылі, што ў выпадку вайны фашысты абавязкова атрымаюць па зубах.

Наколькі памятаю сябе з гадоў свайго дзяцінства, самай любімай тэмай у размовах нашых людзей была вайна. Пра яе гаварылі дарослыя і дзеці, у сем’ях і школе. Але найчасцей за ўсё па вечарах у стыхійна выбраных для гэтага месцах. На прызбах каля хат сядзелі людзі сталага веку, а вакол іх тоўпіліся маладыя мужчыны (жанчыны не ўдзельнічалі ў такіх вечарах) і, вядома ж, дзеці (таксама толькі мужчынскага полу). На мой і сённяшні розум гаворка пра вайну вялася ва ўсіх дачыненнях дастаткова прафесійная, праўда, з пэўнай пераацэнкай рэальнай баяздольнасці Чырвонай Арміі. Можна толькі радавацца, што прырода не абдзяліла і тагачаснага беларускага мужыка здольнасцю даваць больш-менш правільную ацэнку таму, што адбывалася не толькі ў яго мясцовасці, а і дзесьці на вялікай адлегласці ад яе. Найбольш за ўсё лічыліся з меркаваннямі тых, хто ў гады Першай сусветнай вайны спаўна панюхаў пораху. А такіх ой як багата было сярод магілян *(у нашых жыхароў ёсць яшчэ і такія саманазвы: магіленцы, магілянцы, магільнянцы. Свой колішні сельскі савет яны называлі Магільнянскім, Магіленскім, Магілянскім. –* ***Аўт.).*** Некаторых з іх франтавыя дарогі прывялі ў Францыю, а быў і такі (па імені Саўка), што апынуўся ажно ў Сахары. Прыкладна з палову ўдзельнікаў той вайны трапіла ў нямецкі палон. Словам, было каму паразважаць і каго паслухаць, калі размова заходзіла пра ваенныя падзеі. Да такіх размоў вялікую зацікаўленасць мелі і пагранічнікі, хаця не выключаю, што іх прысутнасць магла быць выклікана і іншага парадку прычынамі: даведацца пра настрой людзей. Звычайна кожная з такіх сустрэч местачкоўцаў заканчвалася на аптымістычнай ноце: у свеце няма роўнага СССР саперніка.

Гэтаму аптымізму некалькі нашкодзіў вераснёўскі 1939 года паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Праз нашу мясцовасць прайшло нямала вайсковых падраздзяленняў. Не выключана, што не самых сучасных, перадавых паводле сваёй тэхнічнай аснашчанасці. Пагаворвалі, што яна нават мала ў чым перасягае тое, што было характэрна рускай арміі часоў Першай сусветнай вайны. Вельмі дрэннае ўражанне ў людзей пакінула масавае выкарыстанне абмотак, якімі абгортваліся ногі ад салдацкіх чаравікаў да самых калень. А вось нам, школьнікам, гэта прыйшлося даспадобы. Здабыць у салдат такі кампанент абутку сталася зусім проста, таму дзесьці праз месяц ледзь не пагалоўна ўсе хлопцы хадзілі ў школу ў абмотках, чаму ніяк не пярэчылі настаўнікі.

Вельмі хутка сталі варочацца дамоў удзельнікі таго вераснёўскага паходу, сярод якіх было і некалькі пагранічнікаў з Магільнянскай камендатуры. У публічных размовах яны не дапускалі аніякіх крытычных заўваг датычна ўдзелу савецкіх войскаў у баявых аперацыях, аптымістычна заяўляючы, што ім быў бы пад сілу і непараўнальна больш сур’ёзны праціўнік. Мне ж давялося быць сведкам і крыху іншых размоў. Пастараўся пра гэта добра знаёмы майму тату пагранічнік. Пасябравалі яны зусім не выпадкова: першы з іх працаваў на мясцовай хлебапякарні дрывасекам і вартаўніком, а другі – адвозіў хлеб у пагранкамендатуру. У пагранічніка, які глынуў надвячоркам у нашай хаце дзве-тры чаркі гарэлкі, тут жа развязаўся язык, і ён накінуўся з бязлітаснай крытыкай на многае з таго, што давялося ўбачыць у арміі. Паводле яго слоў, ідучы ў атаку, некаторыя чырвонаармейцы больш крычалі не “За Сталина!”, а “Заставили!”. Відаць, яму давялося нешта даведацца пра ўзбраенне і дысцыпліну ў нямецкім войску, бо напаўголасу прамовіў такое:

– Міша (майго бацьку жыхары мястэчка называлі толькі Міхасём, а пагранічнік, будучы рускім па нацыянальнасці, зваў свайго напарніка па працы Мішам), не дай бог нам сутыкнуцца з гэтай краінай!

У гурце людзей публічна нешта падобнае ніхто не адважыўся б сказаць. Хоць і з вялікай асцярожнасцю, але ўсё ж дазвалялі сабе штосьці пазітыўнае сказаць па тэхнічную аснашчанасць нямецкай арміі, баявы дух яе салдат дэпартаваныя ў канцы 1939 года ў Магільнае польскія яўрэі. Іх інфармацыі нельга было не верыць, бо яны на многае нагледзеліся ў час нямецка-польскай вайны, добра разумелі, наколькі магутней быў Вермахт у параўнанні з войскам Другой Рэчы Паспалітай.

Міне трохі часу, і ваенны патрыятызм магілян ізноў апынецца на высокім узроўні, чаму ўсяляк паспрыяе і адпаведная ідэалагічная апрацоўка іх мясцовай савецкай уладай і кіраўніцтвам пагранкамендатуры. Па іх ініцыятыве была праведзена добра запалая мне на ўсе гады ў памяць ваенная гульня мужчынскага насельніцтва прызыўнога ўзросту ўсяго Магільнянскага сельсавета. Яно было падзелена на “чырвоных” і “белых”. У якасці зброі выкарыстоўваліся не якія-небудзь вучэбныя ружжы, а звычайныя аскрэбеныя ад кары двухметровыя сасновыя калы. Як і спадзяваліся, перамагалі “чырвоныя”. Дарослыя людзі ўпотай насміхаліся з такой надуманай бойкі, а нам, дзецям, гэта вельмі спадабалася і паслужыла прыкладам, каб і самім перайсці да ваенных гульняў. Працягваліся яны аж да самай сапраўднай нямецка-савецкай вайны. Ахвотна ўдзельнічалі ў іх нават вучні старэйшых класаў. Назіраючы за ўсім гэтым, дарослыя не раз заяўлялі, што, відаць, неўзабаве быць і сапраўднай вайне.

Такое ўсё часцей і часцей можна было пачуць з вуснаў удзельнікаў вечаровых “вечаў” магільнянскіх мужчын, хаця і ведалі яны, што ніхто не адмяняў падпісанага паміж СССР і Германіяй 23 жніўня 1939 года пакта аб ненападзе. У мэтах параўнання іх баяздольнасці прысутныя на “вечы” вельмі часта выкарыстоўвалі назвы розных відаў добра вядомых усім нам звяроў. Калі СССР атаясамлівалі з мядзведзем, дык Германію – з ваўком, з лісам, а то нават і з зайцам. Аднойчы адзін з самых актыўных і сталых удзельнікаў вечаровых сходаў з ліку пагранічнікаў, наслухаўшыся такіх параўнанняў, заявіў:

– Это будет война между львом и тигром.

Пярэчыць яму ніхто не збіраўся, тым больш што, зрабіўшы такую рэпліку, ён вельмі хутка падаўся да сябе ў камендатуру. Мяне ж дужа глыбока закранула яго параўнанне, але для правільнага ўяўлення пра сілу льва і тыгра не хапала канкрэтных ведаў. Неяк набраўся смеласці і ў час перапынку паміж урокамі спытаў на калідоры пра гэта ў настаўніцы па заалогіі. Адказ быў такі:

– І той, і другі звер і дужы, і каварны. Звычайна леў дужэйшы за тыгра. Але калі тыгр малады, а леў стараваты, то першы з іх можа перамагчы другога.

Не выключана, што такое акурат і меў на ўвазе той пагранічнік. Не ведаю, па якой прычыне, але ад таго вечара яго больш не даводзілася бачыць сярод пагранічнікаў Магільнянскай камендатуры. Мо за выказанае параўнанне (яно ж не пасавала да афіцыйнай бальшавіцкай ідэалогіі) паслалі несці службу ў больш глухое месца. А данесці на таго пагранічніка было каму з цывільных грамадзян. Як высветлілася пазней, камендатура мела сярод іх даволі разгалінаваную агентурную сетку.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

САЛІДАРНАСЦЬ

# У Беларусі адпачывалі сем’і ўкраінскіх вайскоўцаў

Пра гэта расказаў амбасадар Беларусі ва Украіне **Ігар Сокал.** Адпачынак быў арганізаваны летась.

*«У жніўні па просьбе ўкраінскага боку ў Беларусі аздаравіліся і адпачылі ўкраінскія дзеці з сем’яў вайскоўцаў, а таксама малазабяспечаных сем’яў Данецкай і Луганскай абласцей, якія часова пражываюць на Львоўшчыне»,* – распавёў амбасадар у інтэрв’ю БЕЛТА.

Сокал таксама распавёў, што беларускі бок прапрацоўвае пытанне дастаўкі ў 2018 годзе другога гуманітарнага канвою ва Украіну. Папярэдні гуманітарны канвой накіравалі ва Украіну летам 2017 года.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Другая сусветная вайна ў фотаздымках

Больш за 40 унікальных фотапрац, зробленых польскімі, нямецкімі і савецкімі жаўнерамі ў 1939–1945 гадах, сабраў гісторык **Ігар Мельнікаў.** Свой архіў ён раскрые ўсім жадаючым 19 красавіка ў Галерэі TUT.BY. Адкрыццё выставы ў 19.00, уваход вольны.

– Вераснёўская кампанія 1939 года, акупацыя нацыстамі Францыі ў 1940 годзе, крывавыя баі ў Беларусі ў чэрвені 1941 года, беларусы-жаўнеры Арміі Андэрса на Монтэ-Касіна і байцы Чырвонай Арміі побач са зрынутым Рэйхстагам у Берліне – гэта і шмат іншага ўбачаць наведвальнікі выставы, – кажа Ігар Мельнікаў.

Гісторык заўважае, што большасць фатаграфій, якія будуць прадстаўлены на суд гледачоў, ніколі раней не публікаваліся і не дэманстраваліся ў Беларусі. Большасць з іх былі набыты на аўкцыёнах, іншыя паходзяць з сямейнага альбома аўтара выставы.

Дарэчы, аўтар выставы плануе сёлета выдаць аднайменны фотаальбом, у якім будзе апублікавана ў некалькі раз больш здымкаў па дадзенай тэме, зробленых у перыяд Другой сусветнай вайны.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**




ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

# Шепелев благодарен сыну за порядок

Недавно сыну Дмитрия Шепелева и Жанны Фриске исполнилось пять лет. Платон живет вместе с отцом, который, по словам родителей певицы, препятствует их встречам с ребенком. Сам Шепелев отказывается комментировать подобную информацию. Но он исправно пишет на своей странице в “Инстаграм” о том, как растет сын.

Вот и недавно Шепелев поблагодарил Платона за то, что тот привнес в его жизнь порядок.

*“Каждый раз, планируя путешествие с сыном, полет, отдых или развлечение, я до последнего держу в голове “ну, не факт”,* – поделился своими мыслями телеведущий. – *Наверное, каждый родитель проходил через такое: куплены билеты, заказан отель, заготовлены пригласительные в какой-нибудь “Дисней-”, “Лего-” или любой другой «лэнд», организованы машины, сопровождающие, воздушные шары, торт, подарки и даже матрас. Один день до вылета. Или даже лучше так: ночь перед вылетом и... температура. И вместо рейса – такси в аптеку, а вместо сладкой ваты – панадол. Я сталкивался с этим уже раза три. И каждый раз накануне поездки. Уверен, вы понимаете, о чем я. Мы все думаем, что такое происходит только с нами. Это не так. Обидно, конечно, но разве это действительно имеет значение?! Сын как-то сказал: «Не будем отменять, давай просто перенесем». Какой же он мудрый! Я не перестаю ему удивляться. «Спасибо!”– говорю я ему. «За что?» – “За то, что привнес в мою жизнь порядок. Свой порядок». Когда все происходит не вовремя, а когда действительно нужно! И за счастье, конечно, тоже спасибо. Абсолютное счастье: не важно, в “Леголэнде” или с чашкой малинового чая от кашля”.*

**Анна ГОНЧАРИК.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Кошки Никаса

Сходила на выставку Никаса Сафронова – понравились рамы на картинах и кошки в человеческом облачении. У этого художника сытые мурки наряду с президентами и известными актерами – главные герои его произведений. Любит животных, а также сильных и знаменитых мира сего этот хорошо разрекламированный художник. А кто запретит? Но, когда портреты появляются вместе на одном вернисаже, рождаются странные ассоциации, не правда ли? Так сказать, аллегории. Почти божественный лик президента и потрепанный, но все еще мордатый котофей. Зато в каком богатом мундире! Вылизал-таки себе у судьбы. Хм, вот он, оказывается, какой смельчак – гламурный художник Никас Сафронов…

В Минске выставка москвича проходит второй раз, и через несколько дней она в столице уже закрывается. Можно говорить о результатах. Спросите, о каких? О коммерческих, естественно. Только за очень хорошую деньгу можно выставлять такие картины в Художественной галерее имени народного художника Михаила Андреевича Савицкого. Академик, наверное, переворачивается в гробу, да где там, потомкам это что Божья роса. Еще при жизни Михаила Андреевича устали от его бескомпромиссности. Он стоял на страже искусства. Зато теперь можно все, и именно в его именной художественной галерее.

И Сафронова здесь привечают уже второй раз. Хороший заработок! Четыре года назад публики на его выставке было действительно много. Тогда 20 тысяч ошеломленных информационной атакой обывателей принесли в кассу галереи имени Савицкого свои кровные. Сейчас, как сказала директор Галина Ладисова, зрительский поток меньше. Она не уточнила насколько, но, я подозреваю, сильно меньше.

И то правда, два раза такое не скушаешь. Но человек пять пожилых дам в галерее я видела. Они смотрели видео, которое в режиме нон-стоп течет с плазменной поверхности, установленной у стены. А там, Бог ты мой, “звезда с звездою” говорит: с кем только не знаком Никас Сафронов! Ах, и есть ведь где-то настоящая светская жизнь… И то правда: «В Москву, в Москву!..»

В общем, все по закону развлекательного шоу: к сердцу прижмет, к черту пошлет. Тут же у входа можно купить картины Сафронова – в виде открыток или репродукций. Божок коммерции не может упустить ни единой возможности заработать.

Судя по отчетам, на открытии выставки Сафронова был и министр культуры Юрий Бондарь, и первый заместитель его Ирина Дрига. Они, конечно, в модную хронику жизни Никаса Сафронова никогда не попадут ни строчкой, ни словом, но вот почтили присутствием. По личной инициативе или так велит им табель о рангах? А на открытии выставки 95-летнего мэтра белорусского изобразительного искусства народного художника Леонида Дмитриевича Щемелева, помнится, министра культуры не было.

Вот такие акценты расставляет современная жизнь. Хочется закрыть уши – много фальши! Но ведь это льется фоном практически постоянно – поп-культурой называется. С воздухом попадает в кровь… Меняет ее состав. И вот уже кошки Сафронова вызывают даже симпатию – а что, забавные! Не их ли купил сам король Бахрейна?

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ...

# У змаганні з праціўнікамі незалежнасці

Першыя дні пасля абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі былі для яе кіраўнікоў зусім не простыя. Пацярпеўшы паразу падчас галасавання, прыхільнікі федэрацыі з Расіяй зрабілі спробу “адкруціць” усё назад. Уплывовая ліберальная газета “Минский голос” на сваіх старонках змясціла інфармацыю, нібыта незалежнасць была абвешчана 25 сакавіка 1918 года выключна з ініцыятывы Віленскай Беларускай Рады, а ў Мінску належнай падтрымкі для адпаведнай рэзалюцыі не было. Наваствoранае Бюро друку пры Радзе БНР зрэагавала на гэтыя інсінуацыі, апублікаваўшы адпаведнае паведамленне. У ім, сярод іншага, адзначалася, што выкладанне фактаў у публікацыі газеты не адпавядае рэчаіснасці, бо “названую рэзалюцыю прапанавала фракцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады”. Няпраўдзівым было названа сцвярджэнне той жа газеты, быццам бы “меншасць” прыняла паралельную рэзалюцыю”.

Трэба адзначыць, што пра дзейнасць улад Беларускай Народнай Рэспублікі ў той час пісаў не адзін толькі “Минский голос”. Больш ці менш падрабязна пра іх дзеянні і рашэнні паведамлялі таксама незалежная “Минская мысль”, польскамоўны дэмакратычны “Дзеннік Міньскі”, эсэраўскае “Дело труда”, бундаўскі “Дэр Вэкер” (на мове ідыш) і, натуральна, незадоўга перад тым заснаваная беларускамоўная “Вольная Беларусь”…

Сітуацыя змушала прэзідыум Рады Рэспублікі неадкладна склікаць яе паўнамоцнае пасяджэнне ў Мінску. На гэты момант у склад Рады ўваходзіў 71 сябар Рады БНР, утворанай пасля прыняцця Другой Устаўной граматы, а таксама па 10 прадстаўнікоў буйных гарадоў і земстваў, 9 прадстаўнікоў правінцыяльных беларускіх рад, 10 прадстаўнікоў Мінскага беларускага прадстаўніцтва, 15 прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў і 27 прадстаўнікоў Рады Усебеларускага з’езда. Трэба адзначыць, што ў выніку Брэсцкай змовы бальшавікоў і кайзераўскага ўрада было цяжка забяспечыць паўнавартасны ўдзел у яе дзейнасці прадстаўнікоў з занятага бальшавікамі Віцебска, аддадзеных Украіне Гомеля і Брэста, а таксама і Гродна, якое немцы рыхтаваліся перадаць часовым польскім уладам, дый даехаць з Вільні, якую немцы былі гатовы аддаць пад кантроль літоўскіх улад, рабілася ўсё складаней.

Чацвёртае пасяджэнне пашыранай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі пачалося 29 сакавіка 1918 года пад старшынствам Язэпа Варонкі. На пачатку была разгледжана заява сямі сяброў Рады аб уключэнні ў парадак дня пытання аб “пажаданасці стварэння федэрацыі з Вялікарасіяй, Украінай, Літвой”. Як адзначана ў пратаколе пасяджэння, “пасля абмену думкамі гэтае пытанне не было прынята абсалютнай большасцю галасоў”. На прапанову Бабруйскай павятовай рады ў склад Рады Рэспублікі быў уключаны Антон Аўсянік.

Пасля гэтага пашыраная Рада БНР прыступіла да пытання арганізацыі сваёй пастаяннай працы. Было вызначана, што прэзідыум гэтага органа надалей павінен складацца са старшыні (беларуса), яго трох намеснікаў (беларуса, паляка і яўрэя), сакратара (беларуса) і двух намеснікаў сакратара (беларуса і велікароса). Быў вызначаны таксама парадак фарміравання Рады старэйшын (Сеньёрэн-Канвента) у адпаведнасці з прадстаўніцтвам у Радзе розных фракцый і груп. Рада пастанавіла ўтварыць шэсць камісій: замежных спраў, фінансаў, асветы, народнай гаспадаркі, сувязі, а таксама выдавецкую камісію. Функцыі камісіі па разглядзе наказаў было вырашана ўскласці на прэзідыум Рады.

Пасяджэнне Рады працягвалася нават пасля паўночы. Сябар Рады Усебеларускага з’езда Іван Макрэеў заявіў, што, хоць ён і не згодны з палітыкай Рады, пакідае склад Народнага сакратарыята, але Савет сялянскіх дэпутатаў даручыў яму застацца ў яе складзе і “змагацца за федэрацыю з Вялікарасіяй”.

Інакш павялі сябе прадстаўнікі некаторых іншых арганізацый і груповак. Так, кіраўнікі мінскай секцыі агульнарасійскай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў неўзабаве пасля гістарычнага пасяджэння пашыранай Рады БНР 25 сакавіка адклікалі сваіх прадстаўнікоў з Народнага сакратарыята, а Польская рада мінскай зямлі (ПРМЗ) заявіла, што не будзе падпарадкоўвацца рашэнням, зафіксаваным у Трэцяй Устаўной грамаце. Праўда, сваіх кантактаў з Народным сакратарыятам у канкрэтных справах ПРМЗ усё-такі не спыніла.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Народны сакратарыят БНР неадкладна выдаў распараджэнне, згодна з якім усе без вынятку ўрадавыя ўстановы ў краі аб’яўляліся ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі і надалей павінны былі выступаць толькі ад яе імя. Дакументы сведчаць, што адразу пасля абвяшчэння незалежнасці БНР у Мінск з мэтай завязвання кантактаў з першай беларускай уладай адправіліся дэлегацыі з Барысава, Навагрудскага павета, Бабруйска, Слуцка, Нясвіжа і іншых мясцовасцяў.

Аднак сур’ёзнай перашкодай у дзейнасці органаў БНР стала іх вельмі цяжкае фінансавае становішча. Ні да чаго не прывялі доўгія перамовы з нямецкай адміністрацыяй наконт вяртання канфіскаванай яшчэ 25 лютага пасля ўваходу кайзераўскіх войскаў у Мінск вялікай сумы (каля 300 тыс. рублёў) з касы Народнага сакратарыята. Мінская гарадская дума, якая пасля абвяшчэння Другой Устаўной граматы абяцала выдаць Народнаму сакратарыяту крэдыт у памеры 10 тыс. рублёў, таксама не выканала свайго абяцання (пазней бальшавікі, захапіўшы ўладу ў Мінску, гэтую думу разгоняць). Беларускаму ўраду не ўдалося атрымаць у сваё распараджэнне частку маёмасці з Бабруйскай крэпасці: яе перахапілі баяздольныя польскія часці. Народны сакратар кантролю, колішні банкаўскі чыноўнік Пётра Крэчэўскі распрацаваў праграму фіскальных мер па папаўненні казны, аднак ажыццявіць гэтыя меры ў тых умовах, што склаліся, было надзвычай няпроста. І ўсё-такі, узяўшы на сябе адказнасць за перспектывы і лёс Беларусі, кіраўнікі нованароджанай дзяржавы апускаць рук не збіраліся…



**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

ЛИКБЕЗ



# Лучевая диагностика: МРТ или КТ?

В медицинском центре **«ЛОДЭ»** работает современное отделение рентгеновской диагностики, в котором помимо общей рентгенографии применяются современные методы томографии: рентгеновской компьютерной (РКТ) и магнитно-резонансной (МРТ). Они позволяют неинвазивно (без воздействия игл или хирургических инструментов) оценить характер патологического процесса в теле человека.

В чем отличие РКТ-диагностики от МРТ? Кому и как часто можно делать МРТ? Когда нужен рентген, а когда компьютерная томография? Насколько правильно мнение, что флюорографию нужно делать каждый год? На эти вопросы «Народной Воле» отвечали **заведующая рентгенологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» Светлана Анатольевна ГОНЧАРОВА** и врач МРТ **Елена Александровна ДОРОХ.**

**Что желательнее делать белорусам: флюорографию или рентген?**

Рентгеновский аппарат – это источник ионизирующего излучения. Конечно же, оно оказывает определенное биологическое воздействие на ткани. Тем не менее все зависит от дозы. Для персонала – дозы одни, для населения – другие. Здоровый человек должен получить при профилактических рентген-исследованиях не больше 1 миллизиверта в год. Когда мы делаем рентген грудной клетки на нашем пленочном рентгеновском аппарате с диагностической или профилактической целью, то доза составляет 0,18 миллизиверта. (На цифровом аппарате – в разы меньше, и в скором времени он появится в «ЛОДЭ».) Считайте сами, сколько раз в год вы можете сделать рентген.

Но много и не надо. Хотя эпидемическая, онкологическая ситуация такова, что все-таки раз в год, чтобы исключить туберкулез, онкологию и пр., делать рентгеновское исследование органов грудной клетки необходимо. Потому что оно при некоторой патологии более информативно, чем флюорография: на большом рентгеновском снимке органов грудной клетки врач лучше видит многие нюансы.

**Как часто можно делать рентгеновское исследование?**

Первый принцип, которым мы руководствуемся, посылая на исследование человека, – это принцип нормирования. Врач обязан записывать дозу, которую получает пациент при рентген-исследовании, в лист учета дозовых нагрузок. Диагностическое рентгеновское исследование – не более 5 миллизивертов в год. А есть же еще облучение медицинское, лечебное, когда получаемая пациентами доза намного выше. Мы должны все жестко контролировать.

Второй принцип – принцип обоснованности. Чтобы направить человека на рентген, где он получит определенную дозовую нагрузку, у врача должно быть твердое профессиональное обоснование такого решения. То есть пользы от рентгена должно быть очевидно больше, нежели от его неиспользования. С принципом обоснованности встречается каждый врач, который направляет пациента на исследование. Но окончательное решение принимает все-таки врач-рентгенолог. В поликлинике вы доктора-рентгенолога не видите – вам назначают, вы делаете снимок, потом забираете результат. Доктор пишет заключение по рентгенограмме, не видя вас, не зная вашей истории болезни и жалоб.

В медицинском центре «ЛОДЭ» другая система. Мы с пациентом все время в диалоге, мы беседуем о том, что его беспокоит, уточняем нюансы. И, бывает, врач-рентгенолог даже корректирует направление терапевта, который не знает все тонкости рентгенологии. Поэтому и ошибок у наших специалистов при постановке диагноза меньше. Добавим, что получить на руки заключение по рентген-исследованиям вместе с рентгенограммами можно уже через 5–7 минут после него.

**Делать ли рентген-исследования органов малого таза?**

Рентгенологически органы малого таза, как и брюшной полости, не информативны, так как без контрастных веществ мы их практически не видим. На рентгенограмме лучше видна костная система, а мягкотканные компоненты лучше видны на МРТ и УЗИ. И несколько слов о маммографии. Женщинам после 40 лет ее нужно делать обязательно один раз в год!

**Почему некоторые боятся МРТ?**

У людей бывает относительная клаустрофобия, когда они видят аппарат МРТ, куда, как кажется со стороны, полностью «погружают» пациента. Но наш МРТ сквозной, он открыт с двух сторон, в нем горит свет, поступает свежий воздух, есть вентиляция. Хотя, конечно, если у человека абсолютная клаустрофобия, то тогда лучше проводить исследование (при возможности) на рентгеновском компьютерном томографе.

Многие органы и ткани хорошо видны и на КТ, и на МРТ, но некоторые лучше визуализируются или на КТ, или на МРТ. Например, легкие на МРТ не оцениваются. Преимущественный метод исследования в каждом конкретном случае должен определять врач-специалист.

**Можно ли делать МРТ, если на теле есть татуировки?**

Можно. Если татуировка на плече, а смотреть надо головной мозг, здесь вопросов нет. Или если тату на шее, а мы исследуем малый таз.

Но если ваша татуировка находится конкретно в зоне исследования – на пояснице, например, то тату будет давать то, что мы называем артефактами, и цельная картина исследования может не получиться. Дело в том, что в некоторых татуировках может содержаться металл. Есть металлы, которые притягиваются, есть те, которые не притягиваются, не намагничиваются. Но искажение все равно присутствует, хотя, возможно, артефакты будут минимальными.

МРТ нельзя делать человеку с пирсингом, с брекетами, с кохлеарными имплантами в ушах. Зубные импланты исследованиям не страшны, только могут быть небольшие искажения.

По поводу вставных суставов. Любые имплантаты (суставы, стенты, кардиостимуляторы) являются относительным противопоказанием. При их установке пациенту выдается сертификат с информацией о возможности выполнения МРТ-исследования.

**Елена МОЛОЧКО.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

Андрэй БЕЛАВЕШКІН, кандыдат медыцынскіх навук:

# «Сытны сняданак можа прыемна і незаўважна змяніць ваша жыццё»

## Пра рэсурсы здароўя, культуру харчавання і беларускі "суперфуд"...

*Ён заўсёды падкрэслівае, што змагаецца не з хваробамі, а з іх прычынамі. Стварае адукацыйныя праграмы, чытае лекцыі, вядзе аўтарскі блог у інтэрнэце і вучыць людзей здароўю. На яго рабочым стале ў невялічкім офісе ў цэнтры Мінска – блакнот, ноўтбук і маленькі кубачак кавы. "Яна сапраўды бадзёрыць", – на прыгожай беларускай мове дае доктар першую параду. Праўда, адразу папярэджвае: калі кава – то без фанатызму і далёка не кожны дзень.*

### Шукайце сэнс жыцця

**– Андрэй, самыя распаўсюджаныя сёння немачы – так званыя хваробы цывілізацыі: атлусценне, дэпрэсія, неўрозы, цукровы дыябет. Дзе шукаць прычыны іх узнікнення?**

– Усё проста: фактары асяроддзя. Паветра, якім мы дыхаем. Памяшканне, дзе мы не бачым сонца і куды не трапляе нават рассеяны ультрафіялет. Нездаровая ежа, адсутнасць фізічнай актыўнасці, недасыпы і, безумоўна, псіхалагічныя фактары.

**– Нашы думкі таксама ўплываюць на наша здароўе?**

– Вы, напэўна, чулі пра японскі востраў Акінава? Там жывуць самыя вядомыя доўгажыхары на планеце. Дык вось даследаванні паказалі, што кожны жыхар вострава можа расказаць, які яго "ікігай". Па-нашаму – сэнс жыцця. І чым дакладней чалавек ведае свой "ікігай", тым лепшае здароўе ён дэманструе незалежна ад астатніх факт араў. Так што шукайце сэнс жыцця і ведайце, дзеля чаго вы прачынаецеся зранку!

**– Дарэчы, якога рэжыму дня вы раілі б прытрымлівацца?**

– Схема насамрэч вельмі простая: прачынаемся заўсёды ў адзін і той жа час, адбой – калі сапраўды стаміліся, а днём спім не больш за 20 хвілін.

**– Здаецца, Уінстан Чэрчыль нават падчас Другой сусветнай вайны не парушаў свайго рытуалу сіесты…**

– Яе карысць настолькі бясспрэчная, што некаторыя кампаніі кшталту Google дазваляюць сваім супрацоўнікам драмаць на працы, а ў Францыі ўвогуле існуе афіцыйная рэкамендацыя прыватным і дзяржаўным кампаніям даваць работнікам права на сіесту.

**– Як альтэрнатыва – шпацыр на свежым паветры?**

– Большую частку свайго жыцця мы праводзім у памяшканнях, дзе паветра ў некалькі разоў больш шкоднае, чым на дварэ: гэта і пыл, і выдыханы намі вуглякіслы газ. Чаму часам так баліць галава на працы? Справа не толькі ў стрэсе, але і ў дрэннай вентыляцыі. Другая пагроза памяшканняў – недахоп святла. Таму нават у самае пахмурнае надвор'е лепш выйсці на вуліцу, чым заставацца ў пакоі. Ну і калі ў вас статычная праца і вы сядзіце больш за 12 гадзін у суткі, шкода вашаму здароўю нават большая, чым ад палення. Таму паспрабуйце стаяць хаця б дзве гадзіны ў дзень.

**– Атрымліваецца, рух – гэта сапраўды жыццё?**

– У людзей, якія мала рухаюцца, у два разы павялічваецца рызыка інфаркту, расце рызыка артэрыяльнай гіпертэнзіі і гіпатэнзіі, памяншаецца стрэсаўстойлівасць, павялічваецца рызыка дэпрэсіі. І гэта далёка не поўны спіс. Адсутнасць фізічнай актыўнасці – самая небяспечная пагроза нашаму здароўю.

**– Заняткі спортам тры разы на тыдзень могуць кампенсаваць сядзячую працу і пасіўны лад жыцця?**

– Ні ў якім разе. Увогуле, навукоўцы вылучаюць два віды фізічнай актыўнасці: трэніровачную, пра якую вы пытаецеся, і нетрэніровачную. Звярніце ўвагу: амаль усе доўгажыхары вельмі рухавыя, руплівыя людзі, і сярод іх не так шмат спартсменаў. Так што мая галоўная парада – рухайцеся. Замест ліфта – лесвіца. Машыну можна пакінуць не каля работы, а за пару кварталаў. Едзеце дадому на аўтобусе, выйшлі на прыпынак раней – і на шпацыр не павольным крокам, а ў нармальным сярэднім тэмпе.

### Фастфуд заўсёды ідзе туды, дзе людзі менш за ўсё дбаюць пра сябе

**– Андрэй, адна з самых папулярных вашых адукацыйных праграм – здаровае харчаванне. Для многіх яно пачынаецца з паходу ў краму. Што трэба ведаць, каб не нарабіць памылак?**

– Самае простае і ўніверсальнае правіла, якое спрацуе ў любой сітуацыі, – купляць прадукты такімі, якімі яны выраслі, ці такімі, якімі іх злавілі. У цэльных прадуктах ёсць усё, што трэба вашаму арганізму ў адпаведных прапорцыях і злучэннях. Купілі моркву, капусту ды скумбрыю – вось вам і здаровы абед. Або бурак: гэта ж наш сапраўдны беларускі "суперфуд"! Карысны неверагодна, захоўваецца добра, а каштуе капейкі. І памятайце, што сок – гэта не фрукты, а вяндліна – не мяса. Танней і карысней вам будзе купіць кілаграм той жа ялавічыны, а не палку сыравяленай каўбасы, якая, між іншым, як і ўсё перапрацаванае мяса – афіцыйны канцэраген.

**– А як да мяса ставіцца ўвогуле?**

– У мясе шмат карысных рэчываў і лёгказасваяльных мінералаў. Але яго мы ядзім занадта шмат: кожны дзень і часта ледзь не на кожны прыём ежы. Давайце свайму арганізму адпачынак і рабіце сабе дні ўвогуле без мяса. Таксама не варта есці мяса і бялковыя прадукты на вячэру – гэта можа істотна пашкодзіць вашаму сну.

**– А як з "салодзенькім да гарбаты"?**

– Ведаеце, у салодкім няма нічога небяспечнага, калі яно ўжываецца па прызначэнні. Напрыклад, на свята. Але калі вы ядзіце салодкае кожны дзень на кожны прыём ежы – праблемы гарантаваны. Асабліва шкодныя і небяспечныя для нашага здароўя спалучэнні, якія не існуюць у жывой прыродзе. Напрыклад, тлушч плюс цукар. А гэта і ёсць нашы любімыя торцікі ды піражныя. Параесці іх – на раз-два, бо камбінацыяй "тлушч-цукар" нашыя смакавыя рэцэптары разбіваюцца ўшчэнт.

**– А калі на прысмаках уважліва пачытаць этыкеткі і знайсці штосьці больш-менш бяскрыўднае?**

– Этыкеткі чытаць бессэнсоўна. Для вытворцы схаваць адно пад назвай другога не праблема. Да таго ж у нашай краіне адсутнічаюць пэўныя стандарты. Напрыклад, калі доля транстлушчаў ніжэй за вызначаную колькасць працэнтаў, можна ўвогуле не паказваць, што яны там ёсць, а цукар лёгка хаваецца пад агульнай назвай "вугляводы".

**– Магчыма, варта задумацца не толькі над тым, *што* есці, але і *як* есці?**

– А гэта ўжо культура харчавання. Або яе адсутнасць. Тыповая беларуская сям'я: сын з талеркай пайшоў да камп'ютара ці "сядзіць" у тэлефоне, бацькі перад тэлевізарам, ніхто не размаўляе, і ўсе ядуць самі па сабе. Гэта што заўгодна, але толькі не культура. У той жа Францыі з'есці нешта, не седзячы за сталом, на бягу – табу.

**– Але часам людзі жывуць на вельмі вялікіх хуткасцях. Магчыма, таму і забягаюць у фастфуды…**

– Вы заўважылі, што апошнім часам іх у нас адкрываецца ўсё больш? Мы з гэтага яшчэ падзею нават нейкую робім. А гэта сведчыць толькі пра адно – пра нізкі ўзровень культуры здароўя. "Макдональдсы" і "бургеркінгі" заўсёды ідуць туды, дзе людзі менш за ўсё дбаюць пра сябе.

### «Крыніца бадзёрасці – лёгкі голад і апетыт»

**– Прыхільнікі здаровага харчавання сёння падзяліліся на два лагеры. Адны кажуць, што есці трэба патроху і часта. Другія – за трохразовую класіку: сняданак, абед і вячэру.**

– Папулярная звычка есці пяць-шэсць разоў на дзень не мае навуковага абгрунтавання. Калі чалавек атрымлівае неабходную порцыю бялкоў, тлушчаў і вугляводаў, я не бачу сэнсу есці больш за два-тры разы, гэта нармальная сусветная практыка. І я катэгарычна супраць перакусаў. Паміж прыёмамі ежы абвязкова трэба рабіць "чыстыя" прамежкі. Ніякіх вафелек, яблычак ці шакаладак – толькі вада. Пры такім падыходзе вы і лішнюю вагу скінеце незаўважна, і клопатаў будзе менш: тры разы паесці – гэта не пяць і не шэсць. Ну, і самае галоўнае правіла – есці толькі тады, калі адчуваеце голад, а не калі ў вас дрэнны настрой або вам проста няма чаго рабіць.

**– Сняданак з'еш сам, абедам падзяліся з сябрам, а вячэру аддай ворагу?**

– Арганізму сапраўды лягчэй перапрацоўваць ежу, калі сонца высока. Таму прачынаемся, добра снедаем, а потым робім лёгкую вячэру і лёгка засынаем: так нашы біярытмы будуць працаваць у нармальным, здаровым рэжыме.

**– Што не так з біярытмамі, калі пасля абеду раптоўна надыходзіць млявасць і дрымотнасць?**

– З гэтым разбрацца даволі проста: звярніце ўвагу, што і калі вы ясце.

Вяртаемся да нашых "любімых" перакусаў. Асабліва хуткавугляводных

: яны прыводзяць да ўпадку сіл і павышаюць рызыку развіцця сіндрому хранічнай стомленасці. Пад'еўшы, умоўна кажучы, шакаладным батончыкам, вы рэзка павялічыце ўзровень цукру, пасля чаго ў крыві будзе такі ж круты яго спад. І ўсё – прывітанне стомленасці і апатыі. Увогуле, наводзіць парадак у жыцці варта з базавых сфер: сон, фізічная актыўнасць, харчаванне. Можа, чалавек у сябе запіхвае такую ежу, якая несумяшчальная з нармальным самаадчуваннем.

**– Што дакладна нам гарантуе бадзёрасць?**

– Залог добрага дня – высокабялковы сняданак. Скажам, сёння раніцай я еў спаржавую фасолю і запечаную рыбу. Выдатна працуе гародніна, арэхі, бабовыя, злакі. Пазбягайце "ілжывай" ежы: мучнога і салодкага. І не забывайцеся, што лёгкі голад і апетыт – гэта крыніца бадзёрасці. Стыў Джобс нездарма заклікаў, каб людзі "заставаліся галоднымі".

### Нездаровы парадокс

**– Андрэй, атрымліваецца, што ўсё геніяльнае сапраўды проста?**

– Проста сказаць, але цяжэй зрабіць. Бо за дзень-два заўважыць радыкальныя змены ў сваім жыцці немагчыма, хаця пачынаецца ўсё менавіта з гэтых маленькіх простых крокаў. Скажам, вырашае чалавек ужываць салодкае праз дзень. Смешна ж, праўда? Але ў выніку за год ён з'есць на некалькі кілаграмаў цукру менш. А гэта тое, што ўжо рэальна ўплывае на наша здароўе.

**– Ці стала ў нас яго больш?**

– Ведаеце, узнікае парадаксальная сітуацыя: з тых гадоў, якія мы выйгралі, дзякуючы вакцынацыі, санітарыі і хірургіі, амаль палова праходзіць у хваробах і абмежаваннях. Таму якая мэта? Правільна: падоўжыць не старасць, а маладосць. Каб і ў 70, і ў 80 не проста існаваць, а актыўна рухацца, падарожнічаць ды цікава жыць. Магчыма, фізічная актыўнасць, харчаванне і сон не так драматычна ўплываюць на працягласць жыцця, але гэта тое, што вельмі заўважна працягвае нашу маладосць.

**– І вось хтосьці паслухае зараз вас і падумае: "Ну ўсё, з панядзелка пачынаю новае жыццё!"**

– І адразу трапіць у пастку: адначасова памяняць сваё жыццё вельмі цяжка. Амаль немагчыма. Першы стрэс, сіла волі паслабела – і чалавека адразу адкіне назад. Таму я за дробныя, але пастаянныя змены. Узяў тры новыя звычкі на месяц – і паехаў. Потым яшчэ тры. І так за год у вас ёсць з дзясятак карысных, здаровых звычак. Класна, праўда ж? Не варта хацець усё і адразу, бо здароўе – гэта не спрынт. Гэта доўгі і вельмі цікавы марафон.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

«ПРЯМАЯ ЛИНИЯ»

# Оснований для паники нет

27 марта в редакции «Народной Воли» прошла «Прямая линия» с кардиологом, заведующим кардиоревматологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» Андреем Мистюкевичем. Ответы доктора на многочисленные вопросы читателей мы публиковали в двух номерах газеты (№28 за 6 апреля и №29 за 10 апреля).

Однако письма читателей с просьбой адресовать их вопрос доктору поступают в «Народную Волю» до сих пор. Мы обещаем повторить «Прямую линию» с кардиологом, но позже. А сегодня публикуем ответ Андрея Петровича Мистюкевича на вопрос нашей читательницы из Минска Людмилы Протасевич. Этот вопрос показался нам актуальным и представляющим интерес для многих.

**– Сыну 14 лет, активно занимается спортом. Сдал биохимический анализ крови, а показатель холестерина значительно ниже нормы – 2,5 ммоль/л при норме 5,2. Что это значит? Есть ли повод для беспокойства или, может быть, в его возрасте это норма? Что надо делать?**

– В вашем случае, если сына ничего не беспокоит, он хорошо переносит физические нагрузки и случайно при обследовании был выявлен низкий уровень общего холестерина, следует выполнить УЗИ щитовидной железы и сдать кровь на гормоны щитовидной железы, хотя бы посмотреть три основных показателя: ТТГ, Т4 и антитела к ТРО. Также следует повторить анализ крови на определение общего холестерина, ЛПНП (липопротеидов низкой плотности), ЛПВП (липопротеидов высокой плотности), триглицеридов. Обратите внимание, не похудел ли ваш сын за последнее время при хорошем аппетите, нет ли у него учащенного сердцебиения в состоянии покоя. В любом случае оснований для паники с вашей стороны нет. Но, имея на руках результаты данных обследований, желательно проконсультироваться у эндокринолога.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

РЭГІСТРАТУРА

# Інфаркт у Джо Лін Тэрнера

Напярэдадні вялікіх выхадных у мінскую Бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі быў шпіталізаваны 66-гадовы амерыканскі рок-музыкант, экс-вакаліст легендарнай групы Deep Purple **Джо Лін Тэрнер**. Як ён апынуўся ў Беларусі, здагадацца нескладана: музыкант жанаты на беларусцы **Маі Козыравай.**

Медыкі дыягнаставалі ў Тэрнера інфаркт, некалькі дзён ён знаходзіўся ў кардыярэанімацыі, у дачыненні да музыканта праводзілася лячэнне ўсімі магчымымі сучаснымі метадамі, якія, дарэчы, ёсць у арсенале ўрачоў БСМП.

Між іншым, толькі суткі знаходжання ў рэанімацыі клінікі каштуюць для замежнікаў 104 рублі 42 капейкі. Але легендарны музыкант, хутчэй за ўсё, плаціць за лячэнне не будзе – яму аказвалася экстранная дапамога.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 18 КРАСАВІКА 2018 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ:

# «Міністры мне – да ружовага Месяца»



*Трохразовы алімпійскі чэмпіён па веславанні распавёў "Народнай Волі" пра міністраў-сілавікоў, працу ў рэгіёне і пра тое, як яны з жонкай развіваюць беларускі дзіцячы спорт.*

*Нагадаем, што ўжо больш за год Уладзімір Уладзіміравіч працуе трэнерам у дзіцяча-спартыўнай школе ў Мастах Гродзенскай вобласці. І агні сталіцы знакамітага спецыяліста пакуль не вабяць…*

– Сёння ўсе пруць у Мінск, а мне дык і ў раённым цэнтры добра, – *кажа мой суразмоўца.* – Раніцай прачнуўся – сонейка ў акно свеціць, выйшаў на вуліцу – траўка зялёная. Неяк лягчэй тут дыхаецца, чым у "асфальтавай клетцы".

**– У колькі ў вас працоўны дзень пачынаецца?**

– Дзеці ў мяне на першую трэніроўку ў 6.45 раніцы падымаюцца, але бегам займаюцца самастойна, без мяне. Я ж ужо не малады, таму так рана яшчэ ў ложку. *(Смяецца.)* На 7.30 будзільнік заводжу.

**– Жонка да вас у Масты не пераехала?**

– Яна прыязджае недзе раз на тыдзень, але ж у Мінску ў нас ёсць дом і кватэра, таму трэба гаспадарку даглядаць. Калі б тут сваё жыллё было, дык яшчэ можна было б падумаць.

**– Вы па-ранейшаму жывяце на службовай кватэры?**

– Так, увесь час на адным і тым жа месцы. Можа, сям'я ў Масты і пераехала б, але ж з нашым домам у Мінску ўлады ніяк не могуць вызначыцца. Кожны год яго збіраюцца зносіць, і кожны год рашэнне змяняецца. Ужо нават рахунак адкрылі, каб нам кампенсацыю за нерухомасць выплаціць, а затым ізноў пытанне павісла ў паветры.

**– Я ведаю, што Таццяна дапамагае вам у працы з дзецьмі…**

– Так, праводзіць з імі гімнастычныя заняткі, калі наведваецца. А вось падчас маёй працы ў Польшчы яна на кожную трэніроўку прыходзіла і давала ўрокі.

**– Гімнастыка для весляроў – гэта ваша ноу-хау ў трэніровачным працэсе?**

– Гэта нармальная распрацоўка, і, дарэчы, калі пачалі такое практыкаваць, то шведы і нарвежцы таксама пераймалі вопыт. Гімнастыка – гэта аснова асноў у спорце. Яна дае спартсмену добрую каардынацыю, добрую рухомасць суставаў і мышцаў. Таму адмыслова для веславання і распрацавалі серыю гімнастычных практыкаванняў.

**– Высокія спартыўныя чыноўнікі прыязджаюць у Масты паглядзець, як працуе з дзецьмі трохразовы алімпійскі чэмпіён?**

– Неяк завітаў Сяргей Хмялькоў з Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па веславанні. І, трэба адзначыць, прыехаў не з пустымі рукамі. Даў нам чатыры лодкі, матор, два трэнажоры… Адным словам, аказаў матэрыяльна-тэхнічную дапамогу. Ведаеце, колькі радасці было! Гэта ж не трэба хадзіць па кабінетах чыноўнікаў з працягнутай рукой, самі вырашылі нам дапамагчы…

А то крыўдна, калі ўсе сродкі накіроўваюцца ў Мазыр, дзе як быццам знаходзіцца цэнтр усебеларускага веславання, а астатнім – што застанецца. Дарэчы, туды яшчэ і таленавітых дзяцей перацягваюць, я гэта называю "кіднэпінгам".

**– Калі школе дапамаглі матэрыяльна, то, можа, і вам заробак паднялі?**

– Я зараз атрымліваю каля 700 рублёў у месяц. Трохі вырас заробак у параўнанні з тым, што было, калі толькі пачынаў працу, але ж паглядзіце, наколькі і цэны падняліся. Гэта ў нас паводле статыстыкі яны ледзь не зніжаюцца, але няхай тыя статыстыкі ў магазін лепш сходзяць, чым цэлымі днямі на паперах лічбы выводзіць. Пасля дэнамінацыі па капейцы накручваюць кошты так, што толькі трымайся!

**– Не так даўно змяніўся міністр спорту, новым прызначылі былога супрацоўніка Службы бяспекі прэзідэнта Сяргей Кавальчука. Як вам такое кадравае рашэнне?**

– У нас наогул дзіўная кадравая палітыка назіраецца. Сяргей Кавальчук – артылерыст, у свой час скончыў Адэскае артылерыйскае вучылішча. Да яго спартыўным ведамствам кіраваў Аляксандр Шамко, які яшчэ раней працаваў у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Быў міністрам спорту і танкіст Юрый Сівакоў. Хто яшчэ не пабываў у гэтым крэсле? Хіба што падводнік альбо лётчык.

**– А вы лічыце, што на гэтай пасадзе павінен знаходзіцца чалавек са спартыўнага асяродку?**

– Для мяне галоўнае – каб ён прыслухоўваўся да меркаванняў спартсменаў і трэнераў. І ў гэтым плане мне падабаўся той жа Юрый Леанідавіч Сівакоў, які прыйшоў і сказаў: "Хлопцы, дапамажыце! Я ў спорце нічога не разумею".

Але, ведаеце, на любым месцы чалавек павінен поўнасцю аддавацца рабоце. Тады будзе вынік. Хаця асабіста мне гэтыя спартыўныя міністры, як кажуць, да ружовага Месяца. Сваёй работы вышэй даху, дзецьмі трэба займацца. А ўсё астатняе – мітусня…

**Алесь СІВЫ.**

ПО ПОВОДУ

## Они делали историю спорта…

Я знаком с Василием Сюльжиным еще с того времени, когда он был начинающим спортсменом, и считаю его настоящим героем белорусского спорта.

Василий родился в деревне Сергеевичи Пуховичского района Минской области. Как-то он мне сказал, что с юных лет у него была мечта заниматься вольной борьбой и стать чемпионом мира. И она начала осуществляться, когда Сюльжин в 1963 году начал заниматься в обществе «Динамо» у заслуженного тренера БССР Лазаря Шапиро, который умел «лепить» королей ковра.

Уже через два года тренировок Василий Сюльжин был удостоен звания мастера спорта СССР, а через десять лет стал чемпионом мира и Европы (дважды). Позже Василий Петрович работал на тренерском поприще в родном обществе «Динамо», в котором прошла вся его спортивная жизнь.

Сюльжин – ветеран славного общества, которое отмечает 95-летие, и я хочу поздравить Василия Петровича и всех динамовским спортсменов и тренеров с этой юбилейной датой!

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**заслуженный тренер Беларуси.**

ГРОШЫ

## Не больш за 3 тысячы долараў у месяц…

*Такія заробкі будуць у наступным сезоне ў хакеістаў, якія выступаюць у беларускай экстралізе.*

Старшыня Федэрацыі хакея Беларусі **Сямён Шапіра** паведаміў пра істотнае скарачэнне заробкаў хакеістаў айчыннай экстралігі. З новага сезона экстралігу падзеляць на два дывізіёны – "А" і "В". Месячны фонд зарплаты ў клубе дывізіёна "А" будзе складаць 100 тысяч беларускіх рублёў, або прыблізна 50 тысяч долараў. Максімальны заробак аднаго ігрока не будзе перавышаць 3 тысячы долараў, а мінімальны не павінен апускацца ніжэй за 150 долараў.

У дывізіёне "В" месячны фонд зарплаты будзе не большы за 50 тысяч рублёў, або каля 25 тысяч долараў. Максімальны заробак аднаго хакеіста – 2 тысячы долараў.

ФУТБОЛ

## Правальны дэбют «Шахцёра»

*Адбыліся матчы 3-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Вось іх вынікі: "Прамень" (Мінск) – "Віцебск" – 0:2, "Шахцёр" (Салігорск) – "Слуцк" – 0:1, "Нёман" (Гродна) – "Днепр" (Магілёў) – 0:0, БАТЭ (Барысаў) – "Дынама" (Брэст) – 2:0, "Іслач" (Мінскі раён) – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 0:0, "Смалявічы" – "Мінск" – 1:1, "Гомель" – "Тарпеда" 0:0, "Гарадзея" – "Дынама" (Мінск) – 0:2.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 3 | 3 | 0 | 0 | 5–0 | 9 |
| Віцебск | 3 | 2 | 1 | 0 | 5–2 | 7 |
| Дынама (Мн) | 3 | 2 | 1 | 0 | 4–1 | 7 |
| Днепр | 3 | 2 | 1 | 0 | 3–1 | 7 |
| Слуцк | 3 | 1 | 2 | 0 | 2–1 | 5 |
| Тарпеда | 3 | 1 | 2 | 0 | 2–1 | 5 |
| Тарпеда-БелАЗ | 3 | 1 | 1 | 1 | 2–2 | 4 |
| Дынама (Бр) | 3 | 1 | 1 | 1 | 2–3 | 4 |
| Нёман | 3 | 0 | 3 | 0 | 2–2 | 3 |
| Іслач | 3 | 0 | 3 | 0 | 1–1 | 3 |
| Гомель | 3 | 0 | 2 | 1 | 0–1 | 2 |
| Мінск | 3 | 0 | 2 | 1 | 1–3 | 2 |
| Смалявічы | 3 | 0 | 1 | 2 | 1–3 | 1 |
| Шахцёр | 3 | 0 | 1 | 2 | 1–3 | 1 |
| Прамень | 3 | 0 | 1 | 2 | 1–4 | 1 |
| Гарадзея | 3 | 0 | 0 | 3 | 1–5 | 0 |

СМУТАК

## «Гэта не чалавек, а суцэльная пазітыўная энергія…»

*Учора беларуская спартыўная грамадскасць развіталася з легендарным трэнерам па акрабатыцы.*

**Міхаіл Ільіч ЦЭЙЦІН** нарадзіўся 9 ліпеня 1920 г. у Горках Магілёўскай вобласці.

У шасцігадовым узросце патрапіў у бадзяжную цыркавую групу, аднак з-за траўмы пазваночніка цыркавая кар'ера не ўдалася. Быў чэмпіёнам СССР сярод юнакоў па спартыўнай гімнастыцы.

З 1946 года выкладаў ва Універсітэце фізкультуры, падрыхтаваў каля 100 майстроў спорту, напісаў больш за 60 метадычных дапаможнікаў, сярод якіх і методыка ўмацавання вестыбулярнага апарата для касманаўтаў.



На 95-годдзе Цэйціна я сустрэўся з ім, ён сказаў, што і ў такім узросце адчувае сябе цудоўна.

*"Мяне падтрымліваюць станоўчыя стрэсы,* – раскрыў Міхаіл Ільіч сакрэт даўгалецця. – *Напрыклад, вучань нешта выйграў – гэта ўжо дае дадатковыя сілы. Праўда, апошнім часам стала турбаваць нага, таму, напрыклад, сальта ўжо не магу зрабіць, як тры гады таму. А стойка на руках для мяне – не праблема і зараз. А вось ранішняя зарадка мне не патрэбна. Я і так шмат рухаюся. І ніякіх дыет не прытрымліваюся. Мне за ўсё жыццё столькі розных рэкамендацый давалі, што галава можа кругам пайсці. То сала можна есці, то нельга. То каву забароняць, то яйкі… Але я ні да кога не прыслухоўваюся, акрамя свайго арганізма. Таму і сто грамаў магу сабе дазволіць, і цыгарэты палю да гэтага часу, хоць ужо і ў меншай колькасці – усяго па 5–6 цыгарэт на дзень. Ведаеце, для мяне не праблема кінуць паліць, але баюся. Усё ж такі палю ўжо 80 гадоў".*

Чэмпіён СССР 1982 года ў складзе футбольнага мінскага "Дынама" **Юрый Пудышаў** таксама ўспамінаў пра стасункі футбалістаў з трэнерам:

*"Памятаю, Міхаіл Ільіч вырашыў падрыхтаваць Аляксандра Пракапенку да экзамена ў Інстытуце фізкультуры. Сашка там вучыўся – гадоў 15 альбо 20. Пайшлі яны, праходзяць ля гасцініцы "Мінск", Пракоп кажа: "Міхаіл Ільіч, пачакайце хвілінку, я хутка збегаю ў рэстаран, аддам доўг". Гадзіны чатыры трэнер чакаў Пракапенку, але так і не дачакаўся. Хаця Міхаіл Ільіч ніколі на нас крыўдаваў. І ўвогуле, гэта быў не чалавек, а суцэльная пазітыўная энергія…"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МАЗАІКА

## Парадавалі!

*Беларус Максім Мірны і аўстрыец Філіп Освальд перамаглі ў парным разрадзе на тэнісным турніры ў амерыканскім Х'юстане.*

Для 40-гадовага беларускага тэнісіста гэта 52-і тытул у парных турнірах пад эгідай Асацыяцыі тэнісістаў-прафесіяналаў.

Тым часам на жаночым турніры ў швейцарскім Лугана беларускі **Арына Сабаленка** і **Вера Лапко** дайшлі да фіналу ў парным разрадзе, дзе прайгралі бельгійкам **Кірстэн Фліпкенс** і **Элізэ Мертэнс**.

Акрамя таго, Сабаленка выйшла ў фінал і ў адзіночным разрадзе, дзе таксама саступіла Элізе Мертэнс.

## Паўфіналісты вызначыліся

*Стала вядома, хто згуляе ў паўфінальных парах Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы па футболе.*

Паводле вынікаў жараб'ёўкі, у Лізе чэмпіёнаў у ½ фіналу сустрэнуцца італьянская "Рома" і англійскі "Ліверпуль", нямецкая "Баварыя" і іспанскі "Рэал".

Першыя паядынкі адбудуцца 24 і 25 красавіка, паўторныя – 1 і 2 мая. Як вядома, фінальны матч Лігі чэмпіёнаў пройдзе 26 мая ў Кіеве.

У Лізе Еўропы французскі "Марсель" згуляе з аўстрыйскім **"Зальцбургам"**, а англійскі **"Арсенал"** – з іспанскім **"Атлетыка"**. 26 красавіка ў Марселі і Лондане пройдуць першыя матчы, паядынкі ў адказ – 3 мая.

## Па новым крузе…

*Сталі вядомы сапернікі мужчынскай гандбольнай зборнай Беларусі ў кваліфікацыі Еўра-2020.*



Дружына **Юрыя Шаўцова**, якая трапіла ў 5-ю групу, згуляе са зборнымі Чэхіі, Фінляндыі, Босніі і Герцагавіны. Матчы пройдуць з кастрычніка 2018-га да чэрвеня 2019 года.

На кантынентальнае першынство паедуць дзве лепшыя каманды групы, а таксама чатыры лепшыя зборныя з ліку тых, што зоймуць трэція месцы ў васьмі групах.

Чэмпіянат Еўропы 2020 года пройдзе ў Аўстрыі, Нарвегіі і Швецыі.

ШАХМАТЫ

## Публікуецца ўпершыню




Гэту задачу склаў наш пастаянны чытач Чэслаў Якубоўскі з Мінска.

**Белыя:** Крh7, Фа2, Лg4, Cb7, Kg2, Kh3 (6).

**Чорныя:** Крf5, Фе1, Се5, Cf1, пп. е6, f6, h4 (7).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі: ***220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Сусветныя чэмпіянаты…

У сталіцы Саудаўскай Аравіі Эр-Рыядзе напрыканцы 2017 года прайшлі чэмпіянаты свету па хуткіх шахматах і бліцы. У хуткіх шахматах Сяргей Жыгалка і Уладзіслаў Кавалёў занялі адпаведна 31-е і 69-е месцы са 134, а Вольга Бадэлька сярод жанчын была 87-й са 100. У бліцы С.Жыгалка (дзеючы чэмпіён Еўропы) і Ул.Кавалёў прыйшлі да фінішу адпаведна 35-м і 61-м са 138 удзельнікаў, В.Бадэлька – 72-й са 100.

Дарэчы, спаборніцтва не абышлося без скандалаў. Ізраільскія шахматысты не атрымалі ўязных віз, а чэмпіёнка свету-2016 па бліцы і хуткіх шахматах Ганна Музычук і яе сястра, экс-чэмпіёнка свету па класічных шахматах Марыя Музычук (Украіна), самі адмовіліся ад удзелу з-за "дыскрымінацыі жанчын" у гэтай ісламскай краіне.

Вось дзве перамогі беларускіх грасмайстраў у хуткія шахматы.

***Павел Эльянаў – Сяргей Жыгалка.***

1.Kf3 d5 2.g3 c6 3.Cg2 Cg4 4.0-0 e6 5.h3 Ch5 6.d4 Kf6 7.c4 Kbd7 8.cd ed 9.Фb3 Фb6 10.Фe3+ Ce7 11.Kc3 Фd8 12.Лd1 0-0 13.Ke5 K:e5 14.de Kd7 15.g4 Bg6 16.Фg3 f5 17.gf Ch4 18.Фe3 Л:f5 19.f4 Фe7 20.Лf1 Kc5 21.Фd2 Лh5 22.Cf3 Лh6 23.Cg4 Ke4 24.K:e4 C:e4 25.Фc3 Лf8 26.Ce3 b6 27.f5 Cg5 28.e6 C:e3+ 29.Ф:e3 Лhf6 30.Лac1 c5 31.b4 c4 32.Фg5 Ф:b4 33.Лf4 h6 34.Фh4 g5, 0:1.

***Санан Сюгіраў – Уладзіслаў Кавалёў.***

1.Kf3 Kf6 2.g3 g6 3.b3 Cg7 4.Cb2 0-0 5.Cg2 c5 6.c4 Kc6 7.0-0 d6 8.d4 cd 9.K:d4 Cd7 10.Kc3 Фa5 11.e3 Лfc8 12.Фd2 Лab8 13.Лad1 a6 14.a3 b5 15.b4 Фd8 16.c5 Ke5 17.cd ed 18.Kd5 Cg4 19.K:f6+ Ф:f6 20.f3 Cd7 21.Ca1 Kc4 22.Фd3 Фe7 23.Лde1 d5 24.f4 Фd6 25.Kb3 Cf5 26.Фd1 C:a1 27.Ф:a1 Ce4 28.Лf2 C:g2 29.Кр:g2 Лe8 30.Лfe2 Лe7 31.Kc5 Лbe8 32.Фd4 Фc6 33.Крg1 f5 34.h3 h5 35.g4 hg 36.hg fg 37.Лh2 Лg7 38.e4 Kd6 39.Фf6 de 40.Ke6 Kf5 41.K:g7 Ф:f6 42.K:e8 Фd4+ 43.Крh1 Kg3+ 44.Крg2 Фd2+ 45.Кр:g3 Ф:e1+ 46.Кр:g4 Фg1+ 47.Крh3 Фf1+ 48.Лg2 e3 49.Kf6+ Крf7, 0:1.

## …і чэмпіянаты краіны

Сёлетнія чэмпіянаты Беларусі прайшлі ў Нацыянальным гістарычным музеі. У мужчын гулялі шэсць грасмайстраў, тры міжнародныя майстры і тры майстры ФІДЭ, у жанчын – тры грасмайстры, адзін міжнародны майстар, два майстры ФІДЭ, два майстры спорту і чатыры кандыдаты ў майстры. У мужскім першынстве прызёрамі сталі грасмайстры: 1.Аляксей Аляксандраў – 9 ачкоў з 11; 2.Сяргей Жыгалка; 3.Уладзіслаў Кавалёў – па 8. Сярод жанчын упэўнена перамагла Настасся Зязюлькіна – 9,5 з 11; 2.Вольга Бадэлька – 8; 3.Наталля Кусянкова – 7.

Дарэчы, А.Аляксандраў стаў чэмпіёнам краіны ў пяты раз, Н.Зязюлькіна – у шосты. Вось як сёлета перамагалі чэмпіёны.

***Мікіта Гаршкоў – Аляксей Аляксандраў.***

1.d4 Kf6 2.c4 e6 3.Kc3 Cb4 4.Kf3 d5 5.Cg5 Kbd7 6.cd ed 7.e3 c5 8.Ce2 Фa5 9.0-0 c4 10.C:f6 K:f6 11.Ke5 C:c3 12.bc Ke4 13.Cf3 Kd6 14.h3 f6 15.Kg4 Cf5 16.Фd2 Крd7 17.Фb2 h5 18.Kh2 g5 19.Лfe1 Крc6 20.Cd1 Лag8 21.Kf1 Cd3 22.Ce2 Cg6 23.Kd2 Лe8 24.a3 Фb6 25.Фb4 a5 26.Ф:b6+ Кр:b6 27.Cf3 Крc6 28.a4 Лe7 29.Лa2 Cd3 30.Kb1 f5 31.Ka3 g4 32.Ce2 gh 33.C:d3 cd 34.gh Лg8+ 35.Крh2, 0:1.

***Вольга Бадэлька – Настасся Зязюлькіна.***

1.d4 d5 2.c4 c6 3.Kf3 Kf6 4.e3 e6 5.Kbd2 c5 6.cd ed 7.b3 cd 8.K:d4 Cb4 9.a3 Cc3 10.Лa2 0-0 11.Cd3 Cg4 12.Ce2 C:d4 13.C:g4 K:g4 14.Ф:g4 Cf6 15.0-0 Kd7 16.Cb2 C:b2 17.Л:b2 Kf6 18.Фd4 Фa5 19.a4 Лac8 20.Kf3 Лc7 21.Фd2 Ф:d2 22.Л:d2 Лfc8 23.Kd4 Лc3 24.Лb2 a6 25.g3 Крf8 26.Лd1 Лc1 27.Л:c1 Л:c1+ 28.Крg2 g6 29.b4 Ke4 30.b5 Лa1 31.f3 Kc3 32.Лc2 Лa3 33.ba ba 34.a5 Kd1 35.Лc8+ Крg7 36.Лc5 Лa2+ 37.Крg1 K:e3 38.Kc6 d4 39.Лc1 d3, 0:1.

## Праверце рашэнні

Шматхадоўка ад 3 студзеня рашаецца так: 1.Лf2+ Крe3 2.Лf3+ Крe4 3.Лe3+ Крd4 4.Лe4+ Крd5 5.Лd4+ Крc5 6.Лd5+ Крc6 7.Лc5+ Крb6 8.Лc6+ Крb7 9.Лb6+ Крa7 10.Лb7+ Крa8 11.Лa7+ Крb8 12.Лa8х.

У задачы-жарце чорны кароль дадаецца на h1 (пат), е3 (мат) і а8 (мат у адзін ход – 1.Фс8х).

Першым адказаў ***Васіль Жуковіч***. На шэраг папярэдніх задач правільна адказалі ***Уладзімір Панько*** (Камянец), ***Леанід Калодка*** (Жодзіна), ***Мікалай Шклярэўскі*** (Мінск).

**Вадзім ЖЫЛКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

9 772071 964000 18031

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.04.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 102 экз. Заказ № 1395.